Астатнія 60 % ільняных тканін (брызент, парусіна, мешкавіна) выкарыстоўваюцца для тэхнічных патрэб у розных галінах народнай гаспадаркі (мал. 14, *б*).

1. Якая прыкмета з'яўляецца асноўнай у стандартнай класіфікацыі? 2. Што пакладзена ў аснову гандлёвай класіфікацыі? 3. Чым прадстаўлены асартымент баваўняных тканін? 4. Дзе выкарыстоўваюцца льняныя тканіны? 5*. Як вы думаеце, чаму сталі выпускаць змешаныя тканіны?

## МАШЫНАЗНАЎСТВА

У стварэнні чаўночных машынных шыўкоў удзельнічаюць чатыры асноўныя механізмы: механізм іголкі, чаўнака, ніткапрыцягвальніка і рухальніка тканіны (зубчастая рэйка). Гэтыя механізмы ёсць у кожнай швейнай машыне. Яны могуць адрознівацца па канструкцыйным афармленні і знешнім выглядзе, але прызначэнне іх і функцыі, якія яны выконваюць, аднолькавыя.




*Мал. 15.* Тыпы машынных іголак: *а* — універсальная; *б* — з закругленым канцом; *в* — з расплюшчаным канцом; *г* — падвойная

### § 15. Машынная іголка

Машынная іголка — найбольш важны працоўны орган швейнай машыны.

Існуе чатыры асноўныя тыпы машынных іголак (мал. 15):

- *універсальныя* — для розных матэрыялаў;

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

- *з закругленым канцом* — для шыцця трыкатажу і расцяжных матэрыялаў;
- *з расплюшчаным канцом* — для шыцця скуры і матэрыялаў з плёначным пакрыццём;
- *падвойныя* (двухстрыжнёвыя) — для выканання дэкаратыўных строчак.

Швейная іголка павінна быць роўная, з бліскучай паліраванай паверхняй і добра заточаным канцом.

Машынныя іголкі вырабляюцца з высакаякаснай сталі.

### Будова машыннай іголкі

Любая машынная іголка складаецца з трох асноўных частак: колбы, ляза і вастрыя (мал. 16).

*Колба* мае цыліндрычную форму са зрэзам (лыскай) з аднаго боку і служыць для замацавання іголкі ў іголкатрымальніку. Лічба на колбе паказвае нумар іголкі.

*Лязо* таксама цыліндрычнай формы, але дыяметрам яно меншае за колбу. Лязо мае два жалабкі: доўгі засцерагае нітку ад пераціракння падчас праходжання яе скрозь тканіну, кароткі прызначаны для стварэння пятлі з верхняй ніткі.

*Вастрыё* — ніжні канец іголкі, на якім знаходзіцца вушка. Служыць для праколвання тканіны.




*Мал. 16.* Машынная іголка: *1* — вастрыё; *2* — доўгі жалабок; *3* — лязо; *4* — колба; *5* — лыска; *6* — кароткі жалабок; *7* — вушка

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

### Устаноўка машыннай іголкі

Іголку ўстанаўліваюць у іголкатрымальнік строга вертыкальна. Пры гэтым іголкаводнік знаходзіцца ў крайнім верхнім становішчы. Доўгі жалабок іголкі павінен быць звернуты ў бок запраўкі верхняй ніткі (мал. 17).

У гэтым становішчы іголку прасоўваюць уверх да ўпору, пасля чаго замацоўваюць заціскной шрубай.




*Мал. 17.* Устаноўка машыннай іголкі: *1* — іголкаводнік; *2* — заціскная шруба; *3* — іголкатрымальнік; *4* — іголка

### Падбор машыннай іголкі

Каб забяспечыць нармальную работу швейнай машыны і якасць строчкі трэба падабраць іголку ў адпаведнасці з таўшчынёй тканіны і нумарам нітак (табл. 4). Чым таўсцейшая і грубейшая тканіна, тым вышэйшы ну-

*Табліца 4.* **Падбор іголкі і нітак у залежнасці ад віду тканіны**

| Від тканіны | Нумар іголкі | Нумар нітак | |
|---|---|---|---|
| | | баваўняных | шаўковых |
| Тонкія баваўняныя | 75 | 80—100 | 75 |
| Бялізнавыя | 85 | 60—80 | — |
| Баваўняныя сукеначныя | 90 | 60—40 | — |
| Ільняныя | 90 | 40—60 | 33 |
| Шарсцяныя сукеначныя | 90, 100 | 50, 40 | 33 |
| Шаўковыя тонкія | 65, 75 | — | 75, 65 |
| Сінтэтычныя | 65, 75 | 80 | 65 |

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

мар іголкі і ніжэйшы нумар нітак, і наадварот, чым танчэйшая тканіна, тым ніжэйшы нумар іголкі і вышэйшы нумар нітак.

Іголкі і ніткі падзяляюцца па нумарах: самая тонкая іголка — № 65, самая тоўстая — № 120; самыя тонкія ніткі — № 100, самыя тоўстыя — № 10.

### Непаладкі ў рабоце швейнай машыны, звязаныя з машыннай іголкай

Падчас працы на швейнай машыне часам узнікаюць непаладкі, якія можна ўстараніць самастойна (табл. 5).

*Табліца 5.* **Спосабы ўстаранення непаладак**

| Непаладка | Магчымая прычына | Спосаб устаранення |
|---|---|---|
| Паломка | Няправільны выбар нумара іголкі | Замяніць іголку ў адпаведнасці з відам тканіны |
| | Няўмелае шыццё | Падчас шыцця нельга цягнуць матэрыял |
| | Няякасная, пагнутая іголка | Замяніць іголку |
| Пропуск шыўкоў | Няправільная ўстаноўка іголкі | Устанавіць іголку правільна |
| | Тупая (пагнутая) іголка | Замяніць іголку |
| | Іголка занадта тонкая для выбранай ніткі | Падабраць іголку ў адпаведнасці з нумарам нітак |
| Абрыў верхняй ніткі | Няякасная іголка з дрэнна адпаліраваным вушкам і завусеніцамі ў жалабках | Замяніць іголку |
| | Неадпаведнасць нумара нітак нумару ўстаноўленай іголкі | Падабраць ніткі ў адпаведнасці з нумарам іголкі |

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

1. З чаго вырабляюцца машынныя іголкі? 2. Назавіце асноўныя тыпы машынных іголак. 3. Назавіце асноўныя часткі машыннай іголкі. 4. Як правільна ўстанавіць машынную іголку? 5*. Што ўплывае на выбар машыннай іголкі? 6*. Якія непаладкі, звязаныя з машыннай іголкай, узнікаюць пры шыцці і чым яны выкліканы?

## § 16. Прызначэнне і будова маталкі

У швейнай машыне маюцца дапаможныя механізмы, якія не ўдзельнічаюць непасрэдна ў стварэнні шыўкоў, але таксама неабходныя. Да іх адносіцца *маталка* (мал. 18). Яе прызначэнне — намотванне нітак на *шпульку* роўнымі шчыльнымі радамі (у адваротным выпадку пры рабоце машыны магчымыя абрывы ніжняй ніткі). У розных мадэлях швейных машын маталкі адрозніваюцца адна ад адной невялікімі ўдасканаленнямі, але прынцып работы ў іх адзін (мал. 19).




*Мал. 18.* Будова маталкі:
*1* — вось; *2* — штыфт восі; *3* — язычок зашчапкі; *4* — кранштэйн; *5* — гумавае кола; *6* — шкіў; *7* — фрыкцыйная шруба



*Мал. 19.* Віды маталак

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт обра

Для намотвання лепш узяць пустую шпульку, тады ніткі будуць намотвацца раўнамерна, без патаўшчэнняў. Таўшчыня намотвання не павінна перавышаць дыяметр шпулькі, інакш ніткі будуць ірвацца.

1. Для чаго неабходная маталка? 2. Назавіце асноўныя дэталі маталкі. 3*. Чаму таўшчыня намотвання не павінна перавышаць дыяметр шпулькі? 4*. Як вы думаеце, якія дэфекты могуць узнікнуць пры намотванні нітак на шпульку?

## § 17. Машынныя швы

Да групы **злучальных швоў** адносяцца настрачное і накладное швы.

*Настрачное шво* служыць для злучэння дэталей і аздаблення вырабаў. Яно выконваецца на аснове сшывальнага шва і бывае двух відаў:

- з адкрытымі зрэзамі (мал. 20, *а*);
- з адным закрытым зрэзам (мал. 20, *б*).

Для выканання гэтых швоў можна выкарыстаць лапку з лінейкай-накіравальнікам.

*Накладное шво* прымяняецца для настрочвання аздабляльнай тасьмы, аплікацыі, а таксама апрацоўкі шлей, завязак. Яно бывае трох відаў:




*Мал. 20.* Віды настрачных швоў: *а* — з адкрытымі зрэзамі; *б* — з адным закрытым зрэзам

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования




*Мал. 21.* Віды накладных швоў:
*а* — з двума адкрытымі зрэзамі; *б* — з адным закрытым зрэзам; *в* — з двума закрытымі зрэзамі

- з двума адкрытымі зрэзамі — для настрочвання тасьмы, карункаў, злучэння дэталей пракладкі (мал. 21, *а*);
- з адным закрытым зрэзам — для настрочвання тасьмы, каўняра, планак, манжэт (мал. 21, *б*);
- з двума закрытымі зрэзамі — для настрочвання бейкі, апрацоўкі пояса, хлясціка (мал. 21, *в*). Гэты від шва найбольш складаны ў апрацоўцы.

1. Назавіце віды злучальных швоў. 2. Калі пры шыцці ўжываецца настрачное шво? 3. Назавіце віды накладнога шва. 4*. Які від шва патрэбна прымяніць, калі неабходна настрачыць тасьму або карункі?

***Настрочванне*** — злучэнне дзвюх дэталей адной строчкай з добрага боку.
***Бейка*** — палоска тканіны, якая нашываецца на выраб у якасці аздобы.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

# КАНСТРУЯВАННЕ І МАДЭЛІРАВАННЕ

Дастаткова проста і прыемна сваімі рукамі зрабіць танную і прыгожую сталовую бялізну. Абраўшы колеравую гаму тканіны, улічыўшы стыль пакоя, прыдумаўшы мадэль і падабраўшы від аздобы, можна стварыць унікальную сталовую бялізну, якая стане ў вашым доме самай любімай.

## § 18. Сталовая бялізна

Сталовая бялізна — вырабы з тканіны, прызначаныя для выкарыстання за сталом, а таксама падчас гатавання і ўжывання ежы. Гэта абрусы, сурвэткі, ручнікі (мал. 22).

Мастацтва народнага ткацтва развівалася на працягу стагоддзяў, удасканальвалася і перадавалася з пакалення ў пакаленне. Для афарбоўвання тканін прымяняліся натуральныя фарбавальнікі з кветак, травы, кары дрэў, таму традыцыйная гама тканых вырабаў стрыманая і няяркая. Асобнае месца сярод гэтых вырабаў займаў ручнік, які выкарыстоўваўся і для гаспадарчых патрэб, і як дэ-



*Мал. 22.* Абрус, сурвэтка, ручнік

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

каратыўны, абрадавы элемент. Звычайна ён упрыгожваўся вязанымі карункамі або махрамі з нітак асновы (мал. 23). Раскошныя абрусы і ручнікі, вышытыя рукамі, былі абавязковым атрыбутам пасагу маладой.

Сталовая бялізна павінна адказваць наступным патрабаванням: гігіенічным, эстэтычным, эканамічным, эксплуатацыйным.

Ад сталовай бялізны шмат у чым залежыць эстэтычны выгляд стала, таму яна павінна гарманіраваць з астатнімі элементамі сервіроўкі, убраннем гасцінай. Найбольш падыходзячай тканінай для сталовай бялізны з'яўляецца льняное палатно, бо яно добра мыецца, вызначаецца трываласцю і заўсёды мае прывабны выгляд. Выкарыстоўваюцца і баваўняныя тканіны, якія таксама лёгка мыюцца: белыя, стракатыя, каляровыя, аднатонныя.



*Мал. 23.* Ручнікі

*Абрус* — аснова ўсёй кампазіцыі стала. Класічны матэрыял для абруса — ільняная тканіна (мал. 24). Абрусы з ільняной тканіны з блішчастымі выпуклымі ўзорамі называюцца *адама́шкавымі*. Яны прымяняюцца для самых урачыстых выпадкаў. На выраб абруса для штодзённага карыстання ідуць тканіны новага пакалення: дыялен, акрыл, драленн і мноства іншых.

Абрусы, якія выпускаюцца прамысловымі прадпрыемствамі Беларусі, маюць стандартныя памеры: прама-

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования



*Мал. 24.* Ільняныя тканіны для абрусаў

вугольныя — 130×160 (130, 280) см; круглыя 130, 150, 160 см у дыяметры. Ёсць і авальныя абрусы (мал. 25).

Пры выбары абруса патрэбна кіравацца наступнымі правіламі:

- абрус павінен адпавядаць форме стала (напрыклад, круглы стол — круглы абрус);
- памер абруса павінен быць большы за памер стала. Засланы абрус павінен звісаць з края стала не менш як на 15—20 см;
- абрус павінен гарманіраваць або кантрасціраваць па колеры з наяўным посудам, адпавядаць інтэр'еру памяшкання.

*Сурвэткі* — абавязковы элемент сервіроўкі стала. Традыцыі і строгі стыль патрабуюць выкарыстоўваць для

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования



*а*



*б*



*в*

*Мал. 25.* Форма абрусаў:
*а* — прамавугольная; *б* — круглая; *в* — авальная

сервіроўкі стала сурвэткі, выраблены з той жа тканіны, што і абрус. Яны могуць быць аднаго колеру з абрусам або адрозніваецца тонам. Калі стол пакрываюць падвойным абрусам, то сурвэткі паўтараюць колер асноўнай тканіны (мал. 26).

Форма сталовай сурвэткі заўсёды квадратная, а памеры могуць быць розныя. Сурвэткі вялікіх памераў (40×40, 50×50, 60×60 см) выкарыстоўваюцца для сервіроўкі абедзеннага стала, меншых памераў (30×30, 35×35 см) — для снедання і вячэры (мал. 27).



*Мал. 26.* Падвойны абрус



*Мал. 27.* Сталовая сурвэтка

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

Часам сярэдзіну стала пакрываюць дарожкай (ручніком) памерам 30×60, 35×70 см, падабранай у тон да сурвэтак. Дарожку можна пакласці і на абрус.

У апошні час для штодзённых трапез выкарыстоўваюць сеты, якія і прыгожыя, і зручныя, і практычныя.

1. Назавіце віды сталовай бялізны. 2. Якія патрабаванні прад'яўляюцца да сталовай бялізны? 3. Чым неабходна кіравацца пры купляння сталовай бялізны? 4*. Вы запрасілі сяброў на дзень нараджэння. Якую сталовую бялізну вы будзеце выкарыстоўваць? Чаму?

## § 19. Пабудова чарцяжа абруса

Для таго каб сшыць сталовую бялізну, неабходна зрабіць яе чарцёж.

Для пабудовы чарцяжа абруса прамавугольнай (квадратнай) формы неабходныя наступныя меркі (мал. 28):




*Мал. 28.* Здыманне мерак для пабудовы чарцяжа абруса

| | | |
|---|---|---|
| Даўжыня стала | → $Д_{ст}$ → | Вымераць даўжыню стала |
| Шырыня стала | → $Ш_{ст}$ → | Вымераць шырыню стала |
| Даўжыня звісаючай часткі абруса | → $Д_{зв}$ → | Ад края стала да сядзення стула (або да падлогі) |

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

Акрамя мерак неабходна ўлічваць прыпускі на падгібку (Пр) 2—6 см у залежнасці ад мадэлі.

Паслядоўнасць пабудовы чарцяжа абруса прыведзена ў табліцы 6.

*Табліца 6.* **Пабудова чарцяжа абруса**

| Паслядоўнасць выканання | Разлік, см | Графічнае адлюстраванне |
|---|---|---|
| 1. Пабудуйце прамы вугал у пункце $B$ | $\angle B$ |  |
| 2. Разлічыце шырыню абруса па формуле і адмерайце ўправа ад пункта $B$. Пастаўце пункт $B_1$ | $BB_1 = \frac{Ш_{ст}}{2} + Д_{зв}$ |  |
| 3. Разлічыце даўжыню абруса па формуле і адмерайце ўніз ад пункта $B$. Пастаўце пункт $B_2$ | $BB_2 = \frac{Д_{ст}}{2} + Д_{зв}$ |  |
| 4. Дабудуйце прамавугольнік па дзвюх старанах $BB_1$ і $BB_2$. У месцы перасячэння пастаўце пункт $B_3$ | $BB_1 = B_2B_3$<br>$BB_2 = B_1B_3$ |  |
| 5. Абвядзіце контур чарцяжа асноўнай лініяй | |  |

1. Якія меркі неабходныя для пабудовы чарцяжа прамавугольнага (квадратнага) абруса? 2. Як разлічыць даўжыню і шырыню прамавугольнага (квадратнага) абруса? 3*. Чаму пры пабудове чарцяжа велічыню меркі $Ш_{ст}$ неабходна дзяліць на два?

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

# § 20. Мадэліраванне сталовай бялізны

Сталовая бялізна вызначаецца вялікай разнастайнасцю. Разгледзім мадэліраванне сталовай бялізны на прыкладзе абруса. Усе мадэлі ствараюцца на аснове квадрата. Змяняючы чарцёж асновы, можна зрабіць выраб любой формы (мал. 29).

Працэс стварэння любога вырабу пачынаецца з *эскіза*, г. зн. з малюнка будучай мадэлі абруса. Гэты этап называецца *мастацкім мадэліраваннем*. Прыдумваючы мадэль сталовай бялізны, неабходна ўлічваць яе прызначэнне




*Мал. 29.* Мадэліраванне сталовай бялізны:
*а* — абрус квадратнай формы; *б* — абрус круглай формы

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

(для паўсядзённага карыстання або ўрачыстых выпадкаў), уласцівасці матэрыялу, з якога будзе выраблядца бялізна (драпіруемасць, змінальнасць, асыпальнасць і інш.), колер (спалучэнне з інтэр'ерам, посудам), напрамак моды. Адначасова варта вызначыць від аздобы сталовай бялізны. Гэта могуць быць: вышыўка, рышэлье, мярэжка; аздабленне карункамі, тасьмой, кантам, стужкай; фальбоны, рушы, валаны.

Пасля падрыхтоўкі і вывучэння эскіза абруса прыступаюць да распрацоўкі фасону — змены чарцяжа асновы, г. зн. да *тэхнічнага мадэліравання,* асноўнымі элементамі якога з'яўляюцца: 1) змена шырыні і даўжыні вырабу; 2) змена формы вырабу.

1. Што неабходна ўлічваць пры распрацоўцы эскіза абруса? 2. Назавіце асноўныя элементы тэхнічнага мадэліравання абруса. 3*. У чым, на вашу думку, адрозненне мастацкага мадэліравання ад тэхнічнага?

## § 21. Разлік колькасці тканіны для пашыву сталовай бялізны

Расход тканіны залежыць ад асаблівасцей абранай мадэлі вырабу, шырыні тканіны, віду рысунка. Баваўняныя і льняныя тканіны выпускаюцца шырынёй 80, 120—145 см і інш. Калі шырыня выбранай мадэлі ўкладваецца ў дадзены памер, то неабходна браць адну даўжыню абруса. Калі шырыня тканіны недастатковая для пашыву вырабу, неабходна браць дзве яе даўжыні.

Пры раскроі абруса з фальбонамі, рушамі варта ўлічваць дадатковы расход тканіны. Для яго разліку неабходна даўжыню фальбоны ў гатовым выглядзе павялі-

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

чыць у 2—2,5 разы (у залежнасці ад яе сабранасці). Вынік падзяліць на шырыню тканіны, каб вызначыць колькасць палос. Атрыманы лік акругліць да цэлых у вялікі бок і памножыць на шырыню фальбоны (уключаючы прыпуск 1,5 см на шво), і вы даведаецеся пра неабходную колькасць тканіны.

***Прыклад разліку***

Памер абруса 100×100 см.

1. Даўжыня фальбоны ў гатовым выглядзе: 100 см × × 4 = 400 см.

Разліковая даўжыня фальбоны: 400 см × 2 = 800 см.

2. Разлік колькасці палос: 800 см : 140 см (шырыня тканіны) = 5,72 (г. зн. 6 палос).

3. Разлік колькасці тканіны: 6 палос × 5 см (шырыня фальбоны + прыпуск на шво) = 30 см.

Такім чынам, вам спатрэбіцца дадаткова 30 см тканіны.

Пажадана разам з абрусам шыць і сурвэткі. Тады пры разліку колькасці тканіны варта дадаць неабходную колькасць тканіны для іх пашыву.

1. Колькі тканіны спатрэбіцца для вырабу класічнага абруса? 2. Што неабходна ўлічваць пры вырабе камплекта сталовай бялізны? 3*. Разлічыце колькасць тканіны на выраб фальбоны для абруса памерам 120×120 см (шырыня тканіны 140 см).

## § 22. Віды аздобы

Аздоба дапаўняе і ўпрыгожвае выраб, падкрэсліваючы асаблівасці мадэлі. Для надання сталовай бялізне прывабнасці выкарыстоўваюцца разнастайныя віды аздобы (мал. 30).

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования




*Мал. 30.* Віды аздобы сталовай бялізны

Выбіраючы матэрыял для аздаблення, варта памятаць, што ён павінен гарманіраваць з асноўным матэрыялам, адпавядаць фасону і валакністаму саставу асноўнай тканіны.

1. Якое значэнне мае аздабленне вырабу? 2. Якія віды аздобы сталовай бялізны вы ведаеце? 3*. Прапануйце від аздобы для льнянога гладкафарбаванага абруса.

## ПАШЫЎ

Сучасная мода вызначаецца значнай прастатой крою. Стварыць сталовую бялізну сваімі рукамі не толькі прыемна, але і зусім не складана, калі авалодаць спецыяльнымі ведамі.

## § 23. Падрыхтоўка тканіны да раскрою. Раскрой абруса

Выкананне любога вырабу пачынаецца з яго раскрою. Раскрой уключае ў сябе наступныя этапы: падрыхтоўка

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

тканіны да раскрою; раскладка дэталей выкрайкі на тканіне; абмялоўка выкрайкі; вырэзванне дэталей крою.

Пры *падрыхтоўцы тканіны да раскрою* неабходна прытрымлівацца вызначаных патрабаванняў. Амаль усім тканінам уласціва ўсадка, таму перад раскроем тканіны дэкаціруюць. Каляровыя, асабліва шматфарбныя, тканіны правяраюць на ўстойлівасць афарбоўкі шляхам прапрасоўвання края праз мокрую тканіну.

Перад раскроем тканіны вызначаюць добры і вываратны бакі, напрамак рысунка. Затым старанна правяраюць, ці няма на добрым боку ткацкіх або аздобных дэфектаў. Дэфекты пазначаюць на вываратным боку, каб пры раскроі іх пазбегнуць.

Перад раскроем пруг абавязкова зразаюць. Тканіну прапрасоўваюць па падоўжнай нітцы, каб выдаліць зморшчыны і складкі. Калі неабходна, выраўноўваюць папярочны зрэз з дапамогай вугольніка або выцягнуўшы уточную нітку.

Падрыхтаваўшы тканіну да раскрою, прыступаюць да наступнага этапу.

*Раскладка выкрайкі на тканіне* павінна праводзіцца на вялікім стале або роўнай гладкай паверхні.

Склаўшы тканіну па падоўжнай нітцы добрым бокам унутр, яе прышпільваюць па баках шпількамі, каб пазбегнуць ссоўвання палотнаў. Калі тканіна мае рысунак у клетку, яго сумяшчаюць па баках і прышпільваюць.

Раскладваючы дэталі выкрайкі, строга прытрымліваюцца падоўжнай ніткі, сумяшчаючы яе на дэталях выкрайкі з падоўжнай ніткай тканіны. Праверыць правільнасць размяшчэння выкрайкі можна пры дапамозе лінейкі, адзначаючы адлегласць ад зрэзу або згібу тканіны.

Размяшчаючы выкрайкі на тканіне, неабходна ўлічваць прыпускі на швы (мал. 31). Раскладваюць абавязко-

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования




*Мал. 31.* Раскладка выкраек на тканіне

ва ўсе выкрайкі адразу. Знайшоўшы найлепшы варыянт раскладкі, іх прышпільваюць шпількамі да тканіны.

У працэсе *абмялоўкі* выкрайку абводзяць кравецкай крэйдай (мылам) суцэльнай тонкай лініяй (1—1,5 мм). Прамыя лініі праводзяць пад лінейку. Затым пазначаюць штрыхавымі лініямі прыпускі на швы.

Апошні этап — *вырэзванне дэталей*. Пасля абмялоўкі выкрайкі здымаюць з тканіны. Вырэзваюць спачатку большыя дэталі з улікам прыпускаў на швы, затым — меншыя.


1. Якія этапы ўключае ў сябе раскрой? 2. Як падрыхтаваць тканіну да раскрою? 3. Што неабходна ўлічваць пры раскладцы выкрайкі на тканіне? 4*. Чаму пры абмялоўцы выкраек праводзяць дзве лініі?

## § 24. Апрацоўка і аздабленне вырабу

Прыгожы абрус (сурвэтку) можна стварыць, калі выканаць правільна і якасна ўсе аперацыі.

Пры апрацоўцы вуглоў неабходныя не толькі веды, але і вялікая стараннасць. Адзін са спосабаў, які прымяняецца для апрацоўкі вуглоў у сталовай бялізне, паказаны ў табліцы 7.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

*Табліца 7.* **Паслядоўнасць апрацоўкі вуглоў**

| Паслядоўнасць выканання работы | Графічнае адлюстраванне |
|---|---|
| 1. Правядзіце лініі на адлегласці 1 см ад краёў сурвэткі (абруса): лягчэй за ўсё гэта зрабіць, выцягнуўшы на патрэбнай адлегласці ад края адну гарызантальную і адну вертыкальную ніткі па перыметры тканіны. На малюнку пункт *B* паказвае перасячэнне ліній падгібу. Адмерайце шырыню падгібу — 6 см. Правядзіце лініі паралельна лініям падгібу. На перасячэнні ліній пастаўце пункт *A* |  |
| 2. Складзіце дэталь сурвэткі (абруса) вуглом добрымі бакамі ўнутр, фарміруючы дыяганаль, якая злучае пункты *A* і *B*, зашпіліце шпількамі |  |
| 3. Складзіце дыяганаль яшчэ раз, як паказана на малюнку, сумяшчаючы пункты *A* і *B*. Моцна прыцісніце пазногцем згіб, каб застаўся бачны след |  |
| 4. Зноў адагніце тканіну і прыфастрыгуйце па пакінутым следзе. Сшыйце рукамі або машынным швом. Адрэжце тканіну на 0,3—0,5 см ад шва, як паказана на малюнку, і распрасуйце прасам зрэзы |  |

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

*Заканчэнне табліцы 7*

| Паслядоўнасць выканання работы | Графічнае адлюстраванне |
|---|---|
| 5. Вывернiце на добры бок сшыты вугал. Падгарніце тканіну на вывератны бок спачатку на 1 см, а затым на 3 см. Прыфастрыгуйце падгіб на адну нітку ніжэй за выцягнутую так, каб сумясціць вугал з пунктам. Прыстрачыце на 0,1 см ад края падгібу |  |

Пры пашыве абруса без аздаблення вам застаецца перайсці да канчатковай апрацоўкі вырабу. Калі ж ваш абрус уключае аздобу, то ў залежнасці ад яе выгляду мадэль апрацоўваюць *да* (напрыклад, фальбонамі) або *пасля* (напрыклад, карункамі) пашыву вырабу.

Найбольш распаўсюджанымі відамі аздаблення з'яўляюцца наступныя.

*Аздабленне тасьмой* — вузкай тканай або плеценай палоскай. Перад прымяненнем яе неабходна прапрасаваць не расцягваючы. Магчымыя два спосабы аздаблення тасьмой.

1-ы спосаб — настрочванне тасьмы на абрус (мал. 32).

Накласці тасьму на добры бок падгібкі нізу вырабу (пры гэтым 2/3 шырыні тасьмы ляжаць на тканіне), прыфастрыгаваць, настрачыць на 0,1—0,2 см ад края тасьмы; свабодны канец тасьмы падагнуць або вывесці ў бок зрэзу.



*Мал. 32.* Настрочванне тасьмы

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования



*Мал. 33.* Акантоўка тасьмой

2-і спосаб — акантоўка нізу абруса запрасаванай тасьмой (мал. 33).

Запрасаваць тасьму папалам, укласці ў згіб тасьмы адкрыты зрэз абруса (сурвэткі), прыфастрыгаваць на 0,3 см ад края. Настрачыць на 0,2 см ад верхняга края тасьмы.

*Аздабленне фальбонай* — касой або папярочнай палоскай тканіны рознай шырыні, сабранай зборкамі або закладзенай складкамі (мал. 34). Фальбону трэба выкройваць у 2—2,5 разы даўжэйшай, чым яна павінна быць у гатовым выглядзе. Адзін зрэз фальбоны апрацоўваецца швом упадгібку або тасьмой. Па другім зрэзе (пры слабым нацяжэнні ніткі) пракладваюцца дзве паралельныя строчкі на адлегласці 0,5 см адна ад адной. З дапамогай нітак фальбона сцягваецца на патрэбную велічыню. Гатовую фальбону прыфастрыгоўваюць да вырабу і настрочваюць на машыне.

*Аздабленне рушамі* — палоскай тканіны, сабранай пасярэдзіне ў зборку або закладзенай у складкі (мал. 35). Палоска — у 3 разы даўжэйшая, чым павінна быць у гатовым выглядзе. Выкройваецца яна, як правіла, пад вуглом 45° да кірунку нітак асновы. Абодва зрэзы руша апрацоўваюць гэтак жа, як ніжні зрэз фальбоны.



*Мал. 34.* Аздабленне фальбонай

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования



*Мал. 35.* Аздабленне рушамі





*Мал. 36.* Аздабленне вышыўкай

Затым для ўтварэння зборак пасярэдзіне палоскі пракладваюцца тры паралельныя машынныя строчкі (пры слабым нацяжэнні ніткі) на адлеглласці 0,2—0,3 см адна ад адной. На гэтых нітках палоску збіраюць, размяркоўваючы зборкі раўнамерна па ўсёй даўжыні. Падрыхтаваны такім чынам рушы накладваюць на добры бок асноўнай дэталі і прыстрочваюць па сярэдняй лініі.

Апошнім штрыхом аздаблення з'яўляецца ручная вышыўка: крыж, мярэжка, гладзь (мал. 36).

1. У якой паслядоўнасці апрацоўваецца абрус? 2*. Для якога абруса падыдзе аздабленне рушамі?

## § 25. Канчатковая апрацоўка абруса

Да канчатковай апрацоўкі абруса адносяцца наступныя віды работ: чыстка вырабу, вільготна-цеплавая апрацоўка, праверка якасці, складванне.

*Чыстка вырабу.* Гатовы абрус ачышчаюць ад ручных шыўкоў часовага прызначэння, падразаюць пакінутыя кан-

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования




*Мал. 37.* Паслядоўнасць складвання абруса

цы нітак машынных строчак, выдаляюць сляды крэйдавых ліній.

*Вільготна-цеплавая апрацоўка* выконваецца электрапрасам на прасавальнай дошцы. Абрус прасуюць з вываратнага боку справа налева па кірунку падоўжнай ніткі тканіны, захоўваючы неабходны цеплавы рэжым. Пры правільнай вільготна-цеплавой апрацоўцы гатовы выраб набывае добры знешні выгляд.

*Праверка якасці вырабу.* Пасля вільготна-цеплавой апрацоўкі праводзяць самакантроль якасці вырабленага абруса. Спачатку ацэньваюцца эстэтычныя паказчыкі. Для гэтага варта ўстанавіць: адпаведнасць знешняга выгляду абруса яго эскізу; адпаведнасць тканіны, аздобы прызначэнню і фасону абруса; гарманічнасць колеравых спалучэнняў матэрыялу. Затым правяраецца якасць тэхналагічнай апрацоўкі: роўнасць краёў абруса, правільнасць апрацоўкі вуглоў, якасць строчкі і вільготна-цеплавой апрацоўкі.

*Складванне* — неабходная аперацыя, ад якой залежыць захаванне эстэтычнага выгляду абруса. Узор складвання абруса прыведзены на малюнку 37.

1. Якія віды работ уключае ў сябе канчатковая апрацоўка абруса? 2. Як праводзяць чыстку вырабу? 3. Як правільна прасаваць абрус? 4*. Ці можна выправіць недахопы, выяўленыя пры праверцы якасці вырабу?

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

# ДОГЛЯД ВЫРАБАЎ З ТЭКСТЫЛЬНЫХ МАТЭРЫЯЛАЎ

Любое адзенне падчас нашэння губляе форму, забруджваецца, пагаршаюцца яго гігіенічныя ўласцівасці. Баваўняныя і льняныя тканіны з прычыны добрай гіграскапічнасці патрабуюць асобага догляду.

## § 26. Догляд адзення з баваўняных і льняных тканін

Адзенне з бавоўны, лёну — гэта модна, прыгожа і зручна, таму важна, каб такія рэчы праслужылі доўгі час. Для захавання высокіх спажывецкіх уласцівасцей яны патрабуюць вызначаных рэжымаў мыцця, сушкі і прасавання.

Для таго каб правільна вызначыць парадак догляду адзення, неабходна ведаць, з якіх валокнаў яно выраблена (аднародных, змешаных). Высветліць гэта можна як па этыкетцы, на якой указаны састаў сыравіны (напрыклад: 100 % бавоўна), так і па знешнім выглядзе, навобмацак. Звычайна на этыкетках (цэтліках) указаны сімвалы па доглядзе вырабаў, якія ўшыты ў адзін з бакавых швоў з унутранага боку вырабу або каля лініі гарлавіны побач з эмблемай прадпрыемства-вытворцы. Яны аднолькавыя для ўсіх краін свету, у тым ліку Беларусі, і змяшчаюць вельмі важную інфармацыю.

Усе сімвалы па доглядзе вырабаў падзяляюцца на пяць груп: мыццё, адбельванне, прасаванне, хімчыстка, сушка.

Сімвалы, якія адносяцца да баваўняных і льняных тканін, прадстаўлены на малюнку 38.

Калі на вырабах няма этыкеткі з сімваламі, то трэба памятаць, што белую сталовую бялізну, пасцельную бяліз-

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

| Мыццё | Адбельванне | Прасаванне | Хімчыстка | Сушка |
|---|---|---|---|---|
|  Мыццё пры тэмпературы 90 °C |  Магчымае адбельванне |  Прасаваць вельмі гарачым прасам |  Аддаваць на хімчыстку |  Сушыць на вяроўцы |
|  Мыццё пры тэмпературы 60 °C |  Не адбельваць | |  Не аддаваць на хімчыстку |  Сушыць у машыне |
|  Мыццё пры тэмпературы 40 °C | | | | |

*Мал. 38.* Сімвалы па доглядзе вырабаў з баваўняных і льняных тканін

ну з лёну і бавоўны мыюць пры тэмпературы да 90 °C. Яны добра вытрымліваюць працяглае мыццё. Каляровыя вырабы з гэтых тканін неабходна мыць асобна ад белых пры тэмпературы не вышэй за 60 °C, а з прымяненнем сінтэтычных мыйных сродкаў, якія ўтрымліваюць хімічны адбельвацель, — не вышэй за 50 °C.

Вопратку (паліто, касцюмы), якая мае бартавую пракладку і падкладку, мыць нельга. Яе трэба аддаваць на хімчыстку.

Пры мыцці баваўняных і льняных вырабаў не трэба ўжываць сінтэтычныя мыйныя сродкі, не прызначаныя для гэтых тканін.

Прасуюць ільняныя вырабы пры тэмпературы не вышэй за 200 °C, баваўняныя — 180 °C, з вываратнага боку (акрамя мужчынскіх кашуль). Белая сталовая бялізна і пасцельная бялізна прасуюцца злёгку вільготнымі, з добрага боку, каб тканіна набыла першапачатковы бляск.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

Нярэдка здараецца так, што на чыстае адзенне трапляюць забруджванні — сок садавіны або ягад, кроплі алею, часцінкі ежы і г. д. Можна паспрабаваць выдаліць іх у дамашніх умовах з дапамогай спецыяльных плямавыводных сродкаў. Выкарыстоўваць іх неабходна **строга па інструкцыі,** прыведзенай на ўпакоўцы. Ёсць агульныя правілы, якіх неабходна прытрымлівацца, для таго каб хутка, акуратна і якасна выдаліць плямы з адзення:

1. Вызначыць характар плямы. Няправільная апрацоўка можа толькі замацаваць яе на тканіне.
2. Выдаліць пляму адразу. Чым старэйшая пляма, тым цяжэй яе вывесці.
3. Любы плямавыводны прэпарат неабходна загадзя апрабаваць на маленькім кавалачку тканіны або на ўнутранай складцы адзення. Гэта неабходна для таго, каб пераканацца ва ўстойлівасці афарбоўкі тканіны.
4. Перад выдаленнем плямы ачысціць шчоткай выраб ад бруду, пылу. Гэта памяншае магчымасць з'яўлення вакол вычышчанага ўчастка зацёкаў.
5. Выводзіць пляму патрэбна заўсёды ад яе края да сярэдзіны.

1. Што неабходна ведаць для вызначэння ўмоў догляду адзення? 2. Якімі спосабамі можна вызначыць састаў валокнаў тканіны? 3. На якія групы падзяляюцца сімвалы па доглядзе вырабаў? 4. Якія сродкі неабходна выкарыстоўваць пры мыцці баваўняных і льняных тканін? Чаму? 5*. Што стане з тканінай, калі будуць парушаны правілы выдалення плям?

***Этыкетка*** — ярлычок з фабрычным, гандлёвым кляймом, надпісам.

***Сімвал*** — умоўны знак якога-небудзь паняцця, з'явы.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

# ЭСТЭТЫКА АДЗЕННЯ

На працягу шматвяковай гісторыі адзенне не толькі абараняла цела чалавека, яно было і творам мастацтва. Як усякі твор мастацтва, адзенне ствАралася з дапамогай сілуэта, ліній, прапорцый.

## § 27. Сілуэт

**Сілуэт** — французскае слова, якім называюць знешнія лініі любога прадмета, яго «цень».

Нягледзячы на ўсю своеасаблівасць і непаўторнасць касцюмаў розных эпох, іх можна ўпісаць у адну з простых геаметрычных фігур — трохвугольнік, авал, трапецыю, прамавугольнік (мал. 39).

У сучаснай модзе асноўнымі сілуэтамі з'яўляюцца: *прамы* (найбольш універсальны) — асноўныя лініі ў сілуэце паралельныя або ствараюць прамавугольнік (мал. 40, *а*); *прыталены* — асноўныя лініі разыходзяцца,



*Мал. 39.* Касцюмы розных эпох, «упісаныя» ў геаметрычныя фігуры

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования




*Мал. 40.* Асноўныя сілуэты сучаснай моды:
*а* — прамы; *б* — прыталены; *в* — паўпрылягаючы;
*г* — трапецыя

перасякаюцца, у сілуэце бліжэй да двух «сустрэчных» трохвугольнікаў (трапецый) (мал. 40, *б*); *паўпрылягаючы* — асноўныя лініі прамыя, выразныя, у сілуэце толькі пазначаюць часткі цела (мал. 40, *в*); *трапецыя* — асноўныя лініі разыходзяцца ўніз ад лініі пляча або проймы (мал. 40, *г*).

Контуры сілуэта ствараюцца з дапамогай ліній. У адзенні адрозніваюць некалькі асноўных груп **ліній:**

- *сілуэтныя* (контурныя) абмяжоўваюць сілуэт касцюма і з'яўляюцца знешнімі;
- *канструктыўныя* з'яўляюцца асновай фасону. З іх дапамогай ствараецца аб'ёмная форма касцюма, неабходная для фарміравання вызначанага сілуэта і правільнай пасадкі яго на фігуры чалавека (плечавыя, бакавыя швы, швы проймы);
- *дэкаратыўныя* — дадатковыя, для ўпрыгожвання, вылучэння частак касцюма (складкі, зборкі, кішэні).

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

Канструктыўныя і дэкаратыўныя лініі з'яўляюцца ўнутранымі, размяшчаюцца ў сярэдзіне сілуэта. Яны бываюць гарызантальныя, вертыкальныя, дыяганальныя, ламаныя і маюць уласцівасць змяняць зрокавае ўспрыманне фігуры чалавека ў адзенні. Напрыклад, вертыкальныя лініі «падаўжаюць» фігуру, гарызантальныя — «пашыраюць» яе (мал. 41).

Вялікую ролю ў адзенні адыгрываюць **прапорцыі** — вызначаныя суадносіны частак касцюма па велічыні паміж сабой і ў параўнанні з фігурай чалавека. Ад гэтых суадносін залежыць гарманічнасць элементаў адзення, знешняе аблічча чалавека. Самымі прыгожымі выглядаюць такія суадносіны, якія блізкія да натуральных прапорцый фігуры чалавека, у якіх паўтараюцца прапорцыі «залатога сячэння» — вышыня галавы «ўкладваецца» ў росце каля 8 разоў, а лінія таліі падзяляе фігуру ў адносінах прыкладна 3 : 5 (мал. 42).



*Мал. 41.* Унутраныя лініі ў адзенні




*Мал. 42.* Прапорцыі «залатога сячэння»

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

Прапорцыі адзення зрокава ўплываюць на прапорцыі фігуры: сукенка з укарочанай лініяй даўжыні спадніцы ўкарочвае поўную фігуру; тая ж фігура ў сукенцы такой жа даўжыні, але шырэйшай, стварае ўражанне квадратнай. Кожны павінен ведаць найлепшыя для сябе прапорцыі і не забываць пра іх у перыяд захаплення новай модай.

Такія выразныя сродкі, як сілуэт, лініі, прапорцыі, дапамагаюць мастаку-мадэльеру «будаваць» касцюм, ствараюць яго кампазіцыю.

1. Што такое сілуэт? 2. Якія лініі ствараюць сілуэт? 3*. Назавіце сілуэт свайго адзення.

## § 28. Фігура чалавека. Прапорцыі і памеры адзення

Любое адзенне — і паўсядзённае, і святочнае — павінна быць зручнае, практычнае і добра аблягаць фігуру. Пасадка адзення на фігуры залежыць ад асаблівасцей целаскладу. Целасклад мае ярка акрэсленыя палавыя, узроставыя і індывідуальныя асаблівасці. Фігура мужчыны вызначаецца вялікімі памерамі, вузкім тазам і шырокімі плячамі. Цела жанчыны карацейшае, плечы вузейшыя, таз шырэйшы.

У ідэале фігура чалавека павінна мець правільныя, гарманічныя прапорцыі і адпавядаць прынцыпу «залатога сячэння». На самай справе не так шмат людзей маюць прапарцыянальныя фігуры, блізкія да ідэальнай. Часцей можна сустрэць людзей з некаторымі адхіленнямі ў фігуры. Яны могуць быць прыроджанымі (занадта вузкія бёдры, вельмі шырокія плечы, своеасаблівая форма ног і г. д.) або набытымі, калі ў чалавека парушаецца пастава.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования




*Мал. 43.* Тыпы паставы: *а* — нармальная; *б* — перагібістая; *в* — сутулая

Пастава характарызуе знешнюю форму чалавека ў цэлым. Існуе тры асноўныя тыпы паставы: нармальная, перагібістая, сутулая (мал. 43).

Для фігуры *нармальнага* (тыпавога, стандартнага) целаскладу характэрная прапарцыянальнасць усіх частак цела. Плечы разгорнутыя, спіна прамая, лапаткі рэзка не вытыркаюцца, выступ ягадзіц нармальны. Адхіленні ад прамой лініі на ўзроўні сёмага шыйнага пазванка — 2 см, на лініі таліі — 1 см.

Пры *перагібістай* фігуры верхняя частка цела выгнутая назад, спіна кароткая, плоская і вузкая. Плечы адведзены назад. Добра развітыя грудзі, вытыркнутыя ягадзіцы. Адхіленні ад прамой лініі на ўзроўні сёмага шыйнага пазванка — 1—1,5 см, на лініі таліі — 4—7 см.

Пры *сутулай* фігуры цела нахілена наперад, спіна акруглая і шырокая. Плечы апушчаныя, накіраваныя наперад. Ягадзіцы плоскія, жывот крыху вытыркаецца. Адхіленні ад прамой лініі на ўзроўні сёмага шыйнага пазванка — 3—4 см, на лініі таліі — 2—3 см.

Калі фігура мае адхіленні ад гарманічных прапорцый, то гэта можна паправіць з дапамогай правільна падабранага адзення.

Гатовае адзенне шыецца на стандартную (тыпавую) фігуру. Асноўнымі параметрамі адзення масавай вытворчасці з'яўляюцца рост, памер і паўната.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

*Рост* — вымярэнне ад падлогі да самага краю галавы (вызначае даўжыню вырабу).

*Памер* — вымярэнне, роўнае абхвату грудзей у сантыметрах.

*Паўната* — вызначае тып целаскладу і ўзроставыя асаблівасці фігуры дарослага чалавека. У жанчын гэты паказчык вызначаецца абхватам бёдраў, у мужчын — абхватам таліі. У дзяцей гэты паказчык не ўлічваецца.

У гандлёвую сетку вырабы паступаюць з гандлёвымі ярлыкамі. На гандлёвым ярлыку гатовага жаночага адзення памер адзення пазначаецца поўнымі велічынямі росту, абхвату грудзей і бёдраў тыпавой жаночай фігуры.

Напрыклад, на ярлыку жаночай сукенкі памеры 170—92—100 абазначаюць, што сукенка пашыта на тыпавую жаночую фігуру, у якой рост 170 см, абхват грудзей — 92 см, абхват бёдраў — 100 см.

На таварных ярлыках адзення для дзяцей ставяцца два памеры: рост і абхват грудзей. Напрыклад, на ярлыку сукенкі напісана 150—72. Гэта значыць, што сукенка пашыта на дзяўчынку ростам 150 см, якая мае абхват грудзей 72 см.

Маркіроўка палягчае пакупніку выбар адзення ў адпаведнасці з яго памерамі.

1. Ад чаго залежаць асаблівасці целаскладу чалавека? 2. Назавіце асноўныя тыпы паставы. 3. Якія параметры ўлічваюцца пры масавай вытворчасці адзення? 4. Як вызначаецца параметр «паўната» ў жанчын, мужчын, дзяцей? 5. Для чаго неабходныя гандлёвыя ярлыкі і што можна па іх вызначыць?

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

Раздзел 3

# АСНОВЫ ДАМАВОДСТВА



Зрабіць свой дом утульным і камфортным можа кожны. Для гэтага вам неабходныя веды пра ўласцівасці колеру, магчымасці асвятлення, правілы стварэння інтэр'ера.

## ЭСТЭТЫКА ЖЫЛЛЯ

### § 29. Наш дом

У кватэры мы праводзім амаль 60 % свайго часу: адпачываем пасля працы ці вучобы, займаемся ўлюбёнай справай, гатуем ежу, прымаем гасцей. Таму наша жыллё павінна быць зручнае, прыгожае. Удала прадуманы **інтэр'ер** кватэры — арганізацыя яе ўнутранай прасторы — стварае цеплыню і ўтульнасць, якія захоўваюць здароўе, саграваюць, заспакойваюць і паднімаюць настрой.

Кожная сям'я абсталёўвае кватэру ў адпаведнасці з уласнымі запатрабаваннямі, магчымасцямі і ўяўленнямі пра тое, што прыгожа, а што не. Нешта ў ёй прадугледжана загадзя: колькасць і размяшчэнне памяшканняў, іх плошча, размяшчэнне аконных і дзвярных праёмаў.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования



*а*



*б*

*Мал. 44.* Функцыянальныя зоны жылля: *а* — асабістая зона; *б* — агульная зона

Аднак існуюць агульныя прынцыпы ўпарадкавання жылля, якія варта ведаць кожнаму.

Праектуючы інтэр’ер кватэры, неабходна прадугледзець функцыянальныя зоны, каб кожны член сям’і адчуваў сябе камфортна.

Гэта могуць быць *асабістыя зоны* — для сну, заняткаў, захоўвання адзення, цацак, асабістых рэчаў і інш. (мал. 44, *а*); *агульныя зоны* — для адпачынку, дзе ўся сям’я можа сабрацца разам, пагаварыць, паглядзець тэлевізар, паслухаць музыку (мал. 44, *б*); *гаспадарчая зона*, дзе размяшчаюць пральную машыну, прасавальную дошку, прадметы побытавай хіміі і інш.

Асноўныя сродкі, якія выкарыстоўваюць для дасягнення прыгажосці і зручнасці інтэр’ера: колеравае вырашэнне, асвятленне і мэбліроўка (расстаноўка мэблі).

1. Якое значэнне мае жыллё ў нашым жыцці? 2. Што такое інтэр’ер кватэры? 3. Якія функцыянальныя зоны трэба прадугледзець пры праектаванні інтэр’ера?

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

## § 30. Колеравае вырашэнне інтэр’ера

Адным з асноўных мастацкіх сродкаў стварэння інтэр’ера з’яўляецца **колер**. Ён аказвае велізарнае ўздзеянне на псіхалагічны і фізічны стан чалавека. Удалае колеравае спалучэнне можа палепшыць настрой, зняць напружанне, адмоўныя эмоцыі, павысіць працаздольнасць, і наадварот, неспрыяльная колеравая гама можа выклікаць пачуццё прыгнечанасці, раздражняльнасць, знізіць працаздольнасць.

Колер мае і эстэтычнае значэнне. Умела выкарыстоўваючы ўласцівасці колеру, правільна выбіраючы колеравую гаму, можна зрабіць сваё жыллё па-сапраўднаму прыгожым. Але без ведання асноў колеразнаўства не абысціся.

**Колеразнаўства** — гэта навука, якая вывучае колеры, іх асаблівасці, спалучэнні. Яна мае свае законы і правілы, якіх трымаюцца мастакі, архітэктары, дызайнеры, мадэльеры і без ведання якіх немагчыма стварыць гарманічны інтэр’ер.

У колеразнаўстве асноўнымі лічацца тры колеры: чырвоны, жоўты, сіні. Астатнія колеры — вынік іх змешвання. Усе колеры ўмоўна можна падзяліць на цёплыя (чырвоны, аранжавы, жоўты) і халодныя (зялёны, блакітны, сіні).

Цёплыя колеры маюць уласцівасць як бы набліжаць, павялічваць прадмет, а халодныя, наадварот, памяншаюць і аддаляюць яго, надаюць цяжар. Пры афармленні памяшканняў рознага прызначэння варта ўлічваць, што цёмныя колеры паглынаюць святло, а светлыя адбіваюць яго. Сцены ў памяшканнях, звернутых на паўднёвы бок, лепш зрабіць халаднейшымі, а пакоі, асветленыя з паўночнага боку, — цяплейшымі. Выбіраючы колер для памяшканняў, неабходна ўлічваць і іх прызначэнне. Для агульнага па-

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

коя прыдатныя бэжавыя, жоўта-карычневыя тоны, для спальні — блакітнавата-шэрыя, светла-зялёныя, лімонныя. У дзіцячым пакоі можна выкарыстаць і яркія колеры.

Такім чынам, пры дапамозе колеру можна:

- «змяніць» аб'ём памяшкання, гэта значыць зрокава павялічыць або паменшыць яго вышыню, зрабіць вузкі пакой шырэйшым і наадварот. Напрыклад, доўгія сцены, афарбаваныя ў светлыя тоны, «пашыраюць» памяшканне (мал. 45, *а*);
- «асвятліць» вузкае і цёмнае памяшканне, выкарыстоўваючы светлую колеравую гаму. У ярка асветленым пакоі можна прыглушыць святло з дапамогай больш цёмнай колеравай гамы (мал. 45, *б*);
- «астудзіць» або «сагрэць» памяшканне. У пакоі, афарбаваным у жоўта-чырвоныя ці аранжавыя колеры, будзе здавацца, што тэмпература на 2—3 °С вышэйшая, чым у пакоі, аформленым у сіне-блакітнай гаме (мал. 45, *а, б*);
- знізіць рэзкія шумы. Яны будуць больш спакойна ўспрымацца ў аліўкава-зялёнай, шэра-зялёнай, карычневай гаме;



*а*



*б*

*Мал. 45.* Магчымасці колеру ў інтэр'еры: *а* — аранжавая гама; *б* — сіне-блакітная гама

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования



*Мал. 46.* Уздзеянне колеру на аб'ём прадметаў

- «змяніць» форму і аб'ём прадметаў. Цёмная канапа візуальна будзе займаць менш месца і здавацца не такой вялікай і аб'ёмнай, як светлая (мал. 46).

Падбор матэрыялаў для афармлення пакояў (шпалеры, афарбоўка, абіўка) будуецца па двух прынцыпах: нюансу і кантрасту.

У аснове *нюансу* ляжыць падбор мэблі, шпалер, абіўкі, блізкіх па колеры, танальнасці, адценнях. Да аднатоннага спалучэння колераў добра дадаць невялікія яркія плямы гарманічнага колеру, якія ўпрыгожваюць і ажыўляюць прастору. Такімі плямамі могуць служыць абіўка крэсла, абрус, сурвэткі.

Другі прынцып афармлення памяшканняў будуецца на *кантрастах*. У любым спалучэнні колераў адзін колер павінен пераважаць, займаць самую вялікую паверхню. Пераважны колер пакоя часцей за ўсё дае афарбоўка сцен. Колеры абіўкі мэблі, фіранак, дывана будуць другаснымі ў спалучэнні і зоймуць ужо меншую плошчу. Такім прыёмам дасягаецца вылучэнне мэблі на кантрастным фоне. Трэці колер будзе адыгрываць дапаможную ролю, звязваючы два асноўныя. Гэта могуць быць канапныя падушкі, вазы.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

Незалежна ад таго, які прынцып вы выкарыстаеце, колеравае вырашэнне інтэр’ера павінна ствараць адзінства і гарманічнасць усіх пакояў кватэры.

Пры выбары гарманічнага спалучэння колераў вам дапаможа табліца 8.

*Табліца 8.* **Гарманічнае спалучэнне колераў**

| Асноўны колер | Гарманічныя колеры і адценні |
|---|---|
| Чырвоны (чысты) | Зялёны, сіні, сінявата-зялёны, залаціста-жоўты, шэры |
| Ружовы | Бардо, карычневы, шэры |
| Аранжавы | Нябесна-блакітны, зялёны, ліловы, фіялетавы, карычневы, белы |
| Карычневы | Бэж, сіні з зеленаватым адценнем, шэры, залацісты |
| Жоўты | Зялёны, карычневы, залацісты |
| Блакітны | Чырвоны, карычневы, сіні, аранжавы, светла-фіялетавы |
| Сіні | Чырвоны, шэры, залацісты, бардо |
| Фіялетавы | Залацісты, жоўты, аранжавы, светла-зялёны, зялёны, травяны, колер марской хвалі |
| Бэзавы | Шэры, каштанавы, светла-фіялетавы, зялёны |
| Бардо | Зялёны, сіне-зялёны, шэры, ружовы, сіні |
| Шэры | Чорны, зялёны, чырвоны, сіні, ружовы, жоўты, блакітны |

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

1. Якое значэнне ў жыцці чалавека мае колер? 2. Што вывучае колеразнаўства? 3. Якія колеры з'яўляюцца асноўнымі? 4. Якія ўласцівасці халодных і цёплых колераў вы будзеце ўлічваць пры афармленні інтэр'ера? 5. Што ляжыць у аснове прынцыпаў нюансу і кантрасту? Прывядзіце прыклады.

## § 31. Асвятленне кватэры

Святло мае вельмі істотнае значэнне для чалавека. Ад асвятлення кватэры залежаць наша фізічнае самаадчуванне, унутраны стан, настрой, атмасфера ў доме.

Галоўнае прызначэнне асвятлення — стварыць спрыяльныя ўмовы бачнасці, паменшыць стамляльнасць вачэй і захаваць добрае самаадчуванне чалавека.

Асвятленне бывае двух відаў: натуральнае і штучнае.

**Натуральнае (сонечнае) асвятленне** — неабходная ўмова кожнага жылля. Прамыя сонечныя промні ачышчаюць паветра ад шматлікіх хваробатворных мікраарганізмаў. Натуральнае асвятленне стварае аптымальныя ўмовы для працы (чытання кніг, вязання і інш.). Пры выбары месца для працы варта памятаць, што святло павінна падаць злева.

Натуральнае асвятленне памяшканняў залежыць ад пары года, дня і месца знаходжання вокнаў. Для павелічэння інтэнсіўнасці натуральнага асвятлення памяшканне лепш фарбаваць светлай фарбай ці абклейваць шпалерамі светлых тонаў. І не забывайцеся, што забруджаныя вокны здольныя затрымліваць да 30 % святла.

Ад інтэнсіўнасці натуральнага асвятлення залежыць выбар зоны для заняткаў, адпачынку, сну. Каб адчуваць сябе камфортна, у зону сонечнага святла добра паставіць працоўны стол, трумо, абедзенны стол.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

**Штучнае асвятленне** бывае агульнае і мясцовае. *Агульнае* асвятленне павінна быць ва ўсіх памяшканнях кватэры. *Мясцовае* асвятленне дазваляе ярчэй вылучыць асобныя прадметы.

Крыніцамі штучнага святла з'яўляюцца *свяцільні*, якія маюць функцыянальнае, псіхалагічнае і эстэтычнае значэнне. З дапамогай свяцільняў ствараюцца працоўны настрой у кабінеце, утульнасць у гасцінай, атмасфера адпачынку ў спальні. Менавіта яны расстаўляюць сэнсавыя акцэнты і надаюць інтэр'еру кватэры завершанасць.

Па спосабе мацавання свяцільні падзяляюцца на чатыры групы: столевыя, насценныя, падлогавыя, настольныя.

*Столевыя* свяцільні (лямпы з абажурам, люстры) найбольш зручныя (мал. 47, *а*). Святло, што льецца са столі, добра асвятляе ўсю прастору.

*Насценныя* свяцільні (бра) выкарыстоўваюць як дадатковыя крыніцы святла (мал. 47, *б*).

*Падлогавыя* свяцільні (таршэры) ствараюць асвятленне ў вызначанай зоне пакоя (мал. 47, *в*).

*Настольныя* свяцільні (настольная лямпа, начнік) ствараюць мясцовае асвятленне (мал. 47, *г*).

Светлавая кампазіцыя лічыцца ўдалай, калі свяцільні размяшчаюцца на розных узроўнях. Для жылых памяшканняў пажаданыя чатыры ўзроўні асвятлення:

- *верхні* — лямпа, люстра пад столлю. Яны даюць два віды асвятлення: накіраваны ўніз і накіраваны ўверх (што больш пажадана);
- *бакавы* — таршэры, бра, настольныя лямпы;
- *ніжні* — падлогавыя ці ўбудаваныя ў падлогу свяцільні;
- *кропкавы* — падкрэслівае дэталі інтэр'ера (карціны, посуд), асвятляе працоўныя паверхні (пліту, мыйку).

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования










*Мал. 47.* Свяцільні:
*а* — столевыя; *б* — насценныя;
*в* — падлогавыя; *г* — настольныя

Чатырохузроўневы спосаб асвятлення дазваляе часта змяняць дызайн сваёй кватэры, максімальна заніраваць яе, ствараючы камфортныя ўмовы для ўсіх членаў сям'і.

Недахоп святла дзейнічае на чалавека прыгнятальна. Але і ў лішку асвятлення таксама нічога добрага няма. Таму не забывайцеся выключаць свяцільні, якія вам у дадзены момант не патрэбныя.

**Эканомце электраэнергію!**

1. Якое значэнне ў жыцці чалавека мае святло? 2. Якія віды асвятлення вы ведаеце? 3. Што такое натуральнае асвятленне, якое яго значэнне? 4. Назавіце віды штучнага асвятлення. 5. Пералічыце вядомыя вам свяцільні. Да якіх груп крыніц штучнага святла яны належаць? 6. Назавіце ўзроўні асвятлення.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

***Абажур*** — каўпак для лямпы, свяцільні.
***Бра*** — насценная свяцільня.
***Таршэр*** — падлогавая свяцільня на высокай падстаўцы.
***Начнік*** — цьмяная лямпачка, якую запальваюць на ноч.

## § 32. Віды і класіфікацыя мэблі. Мэбліроўка кватэры

**Мэбля** — перасоўныя ці ўбудаваныя вырабы для абсталявання жылых памяшканняў. У кватэры з правільна падабранай і расстаўленай мэбляй лягчэй арганізаваць побыт (гатаванне і ўжыванне ежы, адпачынак і сон, захоўванне рэчаў і інш.). Мэбля — гэта ўтульнасць і камфорт у доме, гэта магчымасць прыгожа і рацыянальна ўладкаваць жыллё, надаць яму непаўторнае аблічча, зручна і практычна выкарыстаць яго плошчу.

Мэбля вельмі разнастайная і класіфікуецца па некалькіх прыкметах.

Па **эксплуатацыйным** прызначэнні яна падзяляецца на мэблю для кухні, гасцінай, спальні, дзіцячага пакоя і інш. (мал. 48).

Па **функцыянальным** прызначэнні адрозніваюць наступныя віды мэблі:

- *мэбля для захоўвання і размяшчэння розных прадметаў* (корпусная). Да яе адносяцца: шафы (адзежная, кніжная), серванты, стэлажы, паліцы і інш.;
- *мэбля для сядзення і сну*. Гэта зэдлікі, крэслы, канапы, ложкі, канапы-ложкі і інш.;
- *мэбля для працы і ўжывання ежы*. Да такой мэблі адносяцца сталы (абедзенны, пісьмовы, туалетны, камп'ютэрны і інш.).

Акрамя таго, мэбля разнастайная і па **канструкцыі**.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования



*а*



*в*



*б*

*Мал. 48.* Віды мэблі па эксплуатацыйным прызначэнні: *а* — для гасцінай; *б* — для спальні; *в* — для дзіцячага пакоя

У сучасным інтэр'еры вялікае распаўсюджанне атрымала *секцыйная* мэбля, якая складаецца з некалькіх вырабаў (шаф, паліц) мэтавага прызначэння (мал. 49, *а*). Гэта дае магчымасць выкарыстоўваць іх у розных спалучэннях і варыянтах, дапамагае стварыць арыгінальныя інтэр'еры. «Сценкі» зручныя ў карыстанні, эканомяць плошчу.

Мэбля, у якой можна змяняць памеры, форму, а часам і прызначэнне, завецца *мэбля, якая трансфармуецца*. Да яе належаць: крэслы-ложкі, канапы-ложкі; ложкі, якія прыбіраюцца ў шафы ці высоўваюцца адзін з-пад аднаго; вучнёўская парта-трансформер і інш. (мал. 49, *б*). Гэтая мэбля зручная, бо дазваляе скараціць колькасць прадметаў, павялічваючы вольную прастору памяшканняў.

*Стэлажная* мэбля стала абавязковым складнікам сучаснага інтэр'ера. Ад звычайнай шафы ці «сценкі» яе

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования



*а*



*б*



*в*



*г*

*Мал. 49.* Віды мэблі па канструкцыі:
*а* — секцыйная; *б* — мэбля, якая трансфармуецца;
*в* — стэлажная; *г* — убудаваная

адрозніваюць адсутнасць дзверцаў, а часам — задняй і бакавой сценак (мал. 49, *в*). Дзякуючы сваёй умяшчальнасці, яна служыць своеасаблівай вітрынай і выконвае ролю раздзяляльніка прасторы, што павышае камфорт нашага жылля.

Рацыянальна выкарыстаць прастору кватэры дапамагае *ўбудаваная* мэбля. Яна зручная і эканамічная. Асноўныя яе тыпы — прысценныя шафы (шафы-купэ) і шафы-перагародкі (мал. 49, *г*). Карысны аб'ём убудаванай мэблі большы, чым перасоўнай. З яе дапамогай можна ажыццявіць невялікую перапланіроўку кватэры. Яна больш гігіенічная, таму што займае ўсю вышыню памяшканняў.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования



*а*



*б*



*в*

*Мал. 50.* Прадметы мэбліроўкі: *а* — мэблевы гарнітур; *б* — набор мэблі; *в* — адзінкавыя вырабы

Для добраўпарадкавання жылля мэбляй — **мэбліроўкі** — могуць быць выкарыстаны *мэблевыя гарнітуры* — камплекты мэблі, прызначаныя для пэўнага пакоя (гасцінай, спальні, кухні і інш.) (мал. 50, *а*).

Для мэбліроўкі пакоя ў маламетражнай кватэры зручныя *наборы мэблі* — групы прадметаў пэўнага прызначэння: для зоны адпачынку (канапа, крэслы, часопісны столік), ужывання ежы (стол, крэслы) і інш. (мал. 50, *б*).

Асобную групу складаюць *адзінкавыя вырабы* (крэслы-ложкі, шафы, трумо, тумбы для апаратуры і інш.), якія дапаўняюць ужо складзенае абсталяванне (мал. 50, *в*).

Галоўны прынцып мэбліроўкі — стварэнне зручнасці. Варта памятаць, што:

- да ўсіх прадметаў мэблі павінен быць зручны падыход;

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

- праз функцыянальныя зоны адпачынку і працы не павінны праходзіць лініі руху, бо гэта будзе шкодзіць, адцягваць увагу тых, хто займаецца ці адпачывае;
- у маленькім пакоі мэблю лепш расставіць уздоўж сцен, пакой будзе больш прасторны;
- цёмная мэбля лепш будзе глядзецца ў светлым пакоі і наадварот;
- у кожнага з сям'і павінна быць свая «запаведная зона» (улюбёнае крэсла, стол і інш.). Гэта важная ўмова захавання ў чалавека пачуцця абароненасці, якое дорыць нам родны дом.

1. Па якіх прыкметах класіфікуецца побытавая мэбля? 2. На якія віды падзяляецца мэбля па функцыянальным прызначэнні? 3. Чым вызначаецца секцыйная мэбля, мэбля, якая трансфармуецца, стэлажная і ўбудаваная? 4. Што такое мэбліроўка? 5. Што неабходна ўлічваць пры мэбліроўцы кватэры? 6. Выберыце з прапанаванага спіса мэблю для мэбліроўкі вучэбнай зоны: крэсла-ложак, буфет, адзежная шафа, сакрэтнік, банкетка, зэдлік, сервант, крэсла, абедзенны стол, стэлаж.

***Гарнітур*** — поўны набор, камплект.
***Сакрэтнік*** — невялікі пісьмовы стол са скрынямі і паліцамі, а таксама шафа з высоўнай ці адкідной дошкай для выканання пісьмовых работ.
***Сервант*** — шафа для захоўвання посуду і сталовай бялізны.
***Стэлаж*** — шэраг паліц у некалькі ярусаў.
***Трумо*** — вялікае стаячае люстэрка.
***Камода*** — прадмет мэблі, які складаецца з некалькіх размешчаных адна над адной высоўных скрынь.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

# АСНОВЫ ГАСПАДАРАННЯ

## § 33. Догляд мэблі

Для таго каб новая мэбля даўжэй захоўвалася, неабходна ведаць наступнае:

- мэблю не варта ўсталёўваць паблізу ацяпляльных прыбораў. Тэмпература ў кватэры не павінна перавышаць 22 °С. Павышаная вільготнасць, занадта высокая або нізкая тэмпература шкодзяць мэблі: яна пакрываецца плямамі, сеткай дробных расколін, цьмянее;
- мэблю не ўсталёўваюць блізка ад балконных дзвярэй і вакна, якое часта адчыняецца. Прамыя сонечныя промні выклікаюць пацьмяненне лаку, змяненне афарбоўкі, з'яўленне плям і расколін на паліраванай паверхні;
- мэблю варта ставіць на роўнае месца, каб пазбегнуць перакосаў і дэфармацыі асобных дэталей (дзверцаў, скрынь);
- неабходна берагчы паліраваную мэблю ад пападання на яе вады, растваральнікаў, судотыку з гарачымі прадметамі, ад якіх на ёй з'яўляюцца белыя плямы;
- пыл скарачае тэрмін службы мэблі.

Для таго каб мэбля заўсёды выглядала як новая, патрэбны сістэматычны і правільны догляд.

Штодзённы догляд мэблі — гэта выдаленне з яе пылу. Для хуткай «сухой уборкі» мэблі выкарыстоўваюць спецыяльныя сурвэткі. Яны выраблены са шчыльнай варсістай баваўнянай тканіны і ўтрымліваюць спецыяльныя рэчывы. Праціраючы гэтай сурвэткай мэблю, можна не толькі ўбраць пыл, але і пакрыць паверхню тонкім слоем

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

*антыстатыку*. Гэта зніжае магчымасць асядання пылу на мэблю.

Калі пыл, аселы на паліраванай мэблі, відаць адразу, і мы тут жа бяромся за сурвэтку, то пыл, які ўбірае мяккая мэбля, не такі бачны. Тым не менш чысціць гэтую мэблю неабходна часта і дбайна, каб у кватэры лёгка дыхалася. Самае простае, безумоўна, адзін раз на тыдзень пачысціць абіўку мяккай мэблі пыласосам. Пыласосіць трэба палосамі ў адным кірунку, выдаляючы пыл з найглыбейшых шчылін. Калі пыласоса няма, то можна выкарыстаць шчотку або выбівачку.

Калі вы вырашылі чысціць шчоткай, то яе неабходна абгарнуць двайным слоем марлі, змочанай у салёнай вадзе (1 ч. л. солі на 1 л вады). Калі вы вырашылі скарыстаць выбівачку, спачатку акрыйце мэблю вялікай чыстай анучай, напрыклад прасцінай, змочанай у падкісленай вадзе (1 ст. л. воцату на 1 л вады) і добра адцiснутай. Калі марля (ануча) забрудзіцца, прапаласкайце яе ў чыстай вадзе і зноў намачыце ў патрэбным растворы. Так паўтарыце некалькі разоў. Затым пачысціце мэблю сухой шчоткай.

Акрамя пылу на мэблі часта з’яўляюцца драпіны, расколіны, плямы ад бруду, вады, тлушчу.

*Драпіны* на вырабах з натуральнай драўніны можна зафарбаваць шчоткай, змочанай у слабым растворы ёду. *Расколіны* на паліраванай мэблі можна замазаць расцёртым пчаліным воскам.

Разлітую на мэблю *ваду* адразу ж збярыце губкай, потым прасушыце фенам. Калі пляма цалкам не выведзена, патрыце яе натуральным коркам.

*Белыя плямы*, якія ўтварыліся ад судотыку паліраванай паверхні з гарачымі прадметамі (напрыклад, прасам, чайнікам і г. д.), выдаляйце кругавымі рухамі, пра-

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

ціраючы пашкоджаныя месцы ваўнянай анучкай, змочанай сумессю сланечнікавага алею і адэкалону ў роўных частках.

*Плямы ад тлушчу* з паліраванай паверхні можна зняць, працёршы яе мяккай анучай, злёгку змочанай алеем. *Плямы ад бруду* на паліраванай мэблі можна пачысціць анучкай, змочанай у малацэ, выцершы затым насуха ваўнянай або аксамітавай тканінай. Чырвонае дрэва праціраюць анучкай, змочанай лапуховым алеем. Непаліраваную мэблю можна праціраць вільготным тампонам, а пры моцным забруджанні памыць мыльнай вадой і насуха выцерці. Аксамітавую (плюшавую) абіўку праціраюць па ворсе мяккай тканінай, змочанай у цёплай вадзе. Мэблю, абабітую скурай, праціраюць мяккай вільготнай анучай. Кухонную мэблю, пакрытую эмаллю і аздобленую пластмасай, мыюць растворам пральнага парашку (1 ст. л. парашку на 1 л вады).

Мэблю можна аднавіць прэпаратамі побытавай хіміі, якія выпускаюцца нашай прамысловасцю. Так, напрыклад, для чысткі мяккай мэблі можна выкарыстаць прэпараты «Ковроль», «Ковролин», «Хваля-Н», «Like».

Для догляду паліраванай мэблі выкарыстоўваюць сродкі на алейнай і васковай аснове. Яны здымаюць забруджанні, ствараюць глянец, надаюць пакрыццю антыстатычныя ўласцівасці, а сродкі на васковай аснове, акрамя гэтага, утвараюць тонкую васковую плёнку. Да такіх сродкаў належыць прэпарат «Brestly» і інш.

1. Які ўплыў аказваюць на мэблю вільготнасць, тэмпература? 2. Чаму не рэкамендуецца ставіць мэблю каля балконных дзвярэй? 3. Што ўключае штодзённы догляд мэблі? 4. Як пачысціць абіўку мяккай мэблі? 5. Назавіце прэпараты побытавай хіміі, якія выкарыстоўваюць для догляду мэблі.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

## § 34. Догляд свяцільняў

Каб у памяшканні было больш штучнага святла, свяцільні неабходна рэгулярна чысціць. Перад чысткай свяцільні выключыце святло.

Пры штотыднёвай уборцы плафоны (шкляныя, фарфоравыя, крыштальныя, сінтэтычныя) трэба зняць і вымыць цёплай вадой з мылам пры дапамозе анучкі або губкі. Крыштальныя плафоны лепш прамыць халоднай вадой з мылам ці нашатырным спіртам. Гэта надасць ім бляск. Вымытыя плафоны і каркас свяцільні праціраюць мяккай сухой тканінай.

Для чысткі і мыцця свяцільняў можна выкарыстоўваць і прэпараты побытавай хіміі: «Блик», «AVKO», «Винд-Н», «Эффект+», «Секунда-экстра», «Mister Window» і інш.

1. Што неабходна памятаць пры чыстцы свяцільняў? 2. У чым заключаецца догляд свяцільняў? 3. Якія прэпараты побытавай хіміі можна выкарыстаць для догляду свяцільняў?

## § 35. Меры засцярогі пры абыходжанні з прэпаратамі побытавай хіміі

З кожным годам усё больш тавараў побытавай хіміі з'яўляецца на прылаўках магазінаў. Розныя парашкі, пасты, вадкасці, аэразолі палягчаюць працу, эканомяць час, дапамагаюць утрымліваць у парадку мэблю, свяцільні са шкла, фарфору, керамікі, крышталю, пластмасы.

Але гэтыя прэпараты могуць быць і вераломныя, калі парушаць правілы засцярогі, не выконваць інструкцыі, прыведзеныя на ўпакоўцы, выкарыстоўваць прэпараты не па прызначэнні.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

Запомніце простыя, але неабходныя **меры засцярогі**:

- сродкі побытавай хіміі неабходна захоўваць у спецыяльна адведзеных месцах;
- усе ўпакоўкі з хімічнымі рэчывамі павінны мець этыкетку;
- перад выкарыстаннем сродку трэба ўважліва прачытаць інструкцыю і дакладна выконваць яе;
- хімічныя сродкі трэба выкарыстоўваць у колькасці, прыведзенай у інструкцыі;
- пры абыходжанні з прэпаратамі побытавай хіміі неабходна надзяваць гумавыя пальчаткі. Пасля завяршэння работы трэба добра вымыць рукі цёплай вадой з мылам.

Асобыя правілы засцярогі неабходна выконваць пры абыходжанні з *аэразольнымі балончыкамі:*

- захоўваць іх трэба ў вертыкальным становішчы ў халаднаватым месцы, аддаленым ад крыніц цяпла;
- пры распыленні аэразоля нельга запальваць газавыя гарэлкі;
- аэразольныя балончыкі трэба выкідваць пасля поўнага выдалення змесціва.

**Нельга разбіраць, кідаць у агонь балончыкі нават пасля выкарыстання!**

1. Для чаго неабходна выконваць меры засцярогі пры абыходжанні з прэпаратамі побытавай хіміі? 2. Пералічыце правілы абыходжання з гэтымі прэпаратамі. 3. Якія правілы засцярогі варта выконваць пры абыходжанні з аэразольнымі балончыкамі?

***Аэразоль*** — газ або вадкасць, якая складаецца з узважаных драбнюткіх цвёрдых ці вадкіх часцінак.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

# АЗБУКА ЭТЫКЕТУ

## § 36. Падрыхтоўка да прыёму гасцей

Дом — гэта не толькі прастора, напоўненая рэчамі. Гэта перш за ўсё гармонія, утульнасць і цяпло, народжаныя і створаныя густам, настроем і пачуццямі тых людзей, якія ў ім жывуць. Адвеку беларусы славіліся сваёй гасціннасцю. Уменне прымаць гасцей — сапраўднае мастацтва. Неабходна вельмі многае ведаць, каб стаць гасціннай гаспадыняй. Існуе некалькі агульнапрынятых правіл, якія варта выконваць.

Людзей, якіх вы жадаеце запрасіць у госці, папярэдзьце загадзя вусна ці пісьмова. Гэта можна зрабіць асабіста пры сустрэчы, па тэлефоне або паслаць запрашэнне.

Каб свята атрымалася, загадзя складзіце падрабязны план. Эксперыментуйце — і свята можа ператварыцца ў незабыўнае. Акрамя падзякі гасцей вы самі атрымаеце вялікую асалоду ад гэтых творчых заняткаў.

Кватэру з нагоды свята можна ўпрыгожыць кветкамі, галінкамі, шарыкамі, гірляндамі. Жартоўныя лозунгі-прывітанні, афішы, малюнкі з адмыслова падабранымі надпісамі, яркая насценгазета ўзмоцняць эфект свята.

Прадумайце, дзе госці змогуць распрануцца і прывесці сябе ў парадак, пакінуць свае сумкі, парасоны, абутак. Вызваліце пярэдні пакой ад лішніх рэчаў. На бачным месцы пакладзіце шчоткі для адзення і абутку.

У мастацтве прымання гасцей сервіроўка (убранне) стала — адзін з найважнейшых момантаў.

Уяўленне пра добра сервіраваны стол, як правіла, пачынаецца са свежага абруса, роўна, акуратна разасланага на стале.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

Памятайце, што абрус павінен:

- адпавядаць памеру і форме стала;
- падыходзіць да посуду;
- адлюстроўваць прычыну свята;
- упісвацца ў інтэр'ер пакоя.

Часам разасланы абрус накрываюць накідной сурвэткай. Пры ўдалым спалучэнні стол набывае дадатковую прыгажосць. Замест абруса можна выкарыстаць сеты (мал. 51).

Расстаўце сталовы посуд, раскладзіце сталовыя прыборы ў адпаведнасці са святочным меню. Прыгадаем асноўныя правілы сервіроўкі. Раскладвайце прыборы ў адваротным вашаму меню парадку: каля талеркі кладзіце прыборы для апошняй падаваемай стравы, а ў канцы, са знешняга боку, — для першай.

Талеркі і сталовыя прыборы павінны знаходзіцца на адлегласці 2 см ад края стала.

Неабходная прыналежнасць стала — сурвэткі. Прыгожа складзеныя, яны эфектна ўпрыгожваюць стол.

Цудоўнае ўпрыгажэнне святочнага стала — кветкі. Яны падкрэсліваюць святочную атмасферу, цешаць сваёй прыгажосцю і водарам.

Складаючы кампазіцыю, імкніцеся захаваць натуральны шарм кветак. Лугавы букет, напрыклад, добра глядзіцца ў простай вазе з натуральнага матэрыялу, ружы — у крыштальнай вазе. Кветкі на стале павінны добра спалучацца з сервіроўкай і не ствараць нязручнасці гасцям.



*Мал. 51.* Афармленне святочнага стала

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования



*Мал. 52.* Кувертныя карткі і карты меню

Усё часцей на святочным стале можна ўбачыць кувертныя карткі і карты меню (мал. 52).

*Кувертныя карткі* — гэта настольныя карткі з указаннем імёнаў гасцей. Пастаўце іх побач са сталовымі прыборамі. Так вы зможаце пасадзіць побач тых гасцей, якіх жадаеце пазнаёміць, рассадзіць тых, хто і без таго часта сустракаецца адзін з адным.

*Карты меню* — гэта пералік страў, якія будуць прапанаваны гасцям. Афармленыя з фантазіяй, яны становяцца прывабным дэкаратыўным элементам сервіроўкі стала, прадчуваннем смачнай вячэры ці абеду.

Афармленыя прыгожа, з фантазіяй, у адзіным стылі, кувертныя карткі і карты меню надаюць закончанасць сервіроўцы. Пасля свята падарыце іх гасцям як сувенір.

Выбіраючы колеравую палітру афармлення стала, улічвайце пару года. Праявіце творчасць. Увесну, напрыклад, дарэчы светлы абрус, веснавая кампазіцыя, кувертныя карткі ў форме кветак, кольца для сурвэтак у форме матылька, каляровы посуд (мал. 53).

Пара года ўлічваецца і пры складанні меню. Пры гэтым памятайце, што гасціннасць выяўляецца не вялікай

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования



*Мал. 53.* Сервіроўка «веснавога» стала



*Мал. 54.* Фірменная страва

колькасцю закусак і страў, а добрай падрыхтоўкай, эстэтычным афармленнем.

Упрыгажэннем стала можа стаць фірменная страва, якая атрымліваецца толькі ў вас, і, вядома, салодкія стравы, арыгінальныя па форме і колеры (мал. 54).

Каб пазбегнуць лішніх хваляванняў, усе прыгатаванні паспрабуйце скончыць за гадзіну да прыходу гасцей. За гэты час трохі адпачніце, прывядзіце сябе ў парадак. Але памятайце правіла этыкету: не імкніцеся пераўзысці сваімі ўборам, прычоскай запрошаных гасцей.

1. У якой форме можна запрашаць гасцей? 2. Што неабходна ўлічваць пры падрыхтоўцы кватэры да свята? 3. Для чаго патрэбныя кувертныя карткі, карты меню? 4. Назавіце патрабаванні, якія прад'яўляюць да абруса пры сервіроўцы стала. 5. Што варта ўлічваць пры размяшчэнні кветак на святочным стале? 6*. Складзіце алгарытм (паслядоўнасць дзеянняў) падрыхтоўкі да прыёму гасцей.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

## § 37. Прыём гасцей

Пачатак свята — заўсёды самы клопатны час. Сустраканне гасцей, іх знаёмства адзін з адным — усё павінна праходзіць натуральна і нязмушана. Прадстаўляючы гасцей адзін аднаму, выразна агучвайце іх імёны. А можа, вам спадабаецца такі варыянт: вітаючы госця, гаспадар дома прышпільвае яму *бэйдж* (картку з імем) (мал. 55).

Калі госць прыйшоў да вас упершыню, пакажыце месца, дзе можна паправіць валасы, вымыць рукі, патэлефанаваць і г. д. Ён будзе ўдзячны вам за гэта. Хатнія тапачкі прапаноўваюць толькі ў вельмі вузкім асяроддзі гасцей або тым, хто просіць пра гэта.

Галоўная задача ветлівай гаспадыні — стварыць прыемную, сяброўскую атмасферу, каб кожны адчуваў сябе ў вашым доме камфортна.

Госці звычайна прыходзяць не ўсе адразу. Перад святочным абедам (вячэрай) можна накрыць яшчэ маленькі столік: паставіць талеркі з садавінай, сокі, лёд і саломкі для кактэйляў. Няхай госці самі прыдумваюць і дэгустуюць сумесі. Гэта смачна і весела, стварае нязмушаныя абставіны. Дапоўніць вечар нягучная, спакойная музыка. Стварыць прыемную атмасферу адпачынку і добры настрой дапаможа і адпаведнае асвятленне.

Ваша галоўная задача — рабіць усё, каб кожны з запрошаных адчуваў сябе жаданым госцем. Асабліва гэта варта ўлічваць, прымаючы падарункі.




*Мал. 55.* Бэйдж

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

● Памятайце, што чалавек, які выбіраў падарунак, жадаў прынесці вам задавальненне. Жаданне каштоўнейшае за падарунак.

● Не дэманструйце абыякавасць да падарунка і незацікаўленасць у ім. Падзякуйце дарыльшчыку і адразу ж, у яго прысутнасці, разгарніце падарунак, выказаўшы шчырую радасць.

● Прымаючы падарункі, па магчымасці, выкажыце свае пачуцці («Я так даўно марыла пра...», «Як удала ты выбраў...»).

● Калі атрыманая рэч вам не даспадобы ці ўжо ёсць такая ж, ні ў якім разе не паказвайце гэта.

● Прынесеныя гасцямі торт, садавіну або цукеркі падайце на стол.

Каб свята атрымалася ўдалым, не прымушайце гасцей чакаць тых, хто спазняецца, больш за 15—20 мін. Запрашайце ўсіх да стала.

Згодна з этыкетам, гаспадыня першай займае месца, паказваючы прыклад гасцям. Ганаровымі лічацца месцы каля гаспадароў.

Колькі падаваць страў — залежыць ад вас, але паслядоўнасць варта выконваць: закускі — гарачае — дэсерт. Прапаноўваючы паспрабаваць тую ці іншую страву, не будзьце дакучлівай. Пераканаўшыся, што госці пад'елі, гаспадыня першай устае з-за стала, падаючы прыклад гасцям.

Весці гутарку за святочным сталом — вялікае мастацтва. Вы павінны быць дыпламатычнай: згладжваць уражанне ад чыёй-небудзь бестактоўнасці, прапаноўваць тэму гутаркі, калі ўзнікла паўза, не дапускаць плётак пра адсутных і г. д.

Прадугледзьце два перапынкі: перад падачай гарачага і дэсерту. Перад гарачым замяніце толькі талеркі. Перад

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

дэсертам, прыбраўшы са стала ўсё, сервіруйце стол для кавы (чаю). Згодна з этыкетам прыняты тры варыянты падачы гэтых напояў:

1. Падаваць іх разлітымі па шклянках, падносячы з правага боку ад госця.

2. Паставіць кафейнік (чайнік) на стол, даўшы гасцям магчымасць наліць сабе самім.

3. Паставіць на стол пустыя шклянкі, а затым паступова іх напоўніць, абносячы вакол стала кафейнік або чайнік.

Выберыце для сябе найбольш зручны з прыведзеных спосабаў.

Прадумайце загадзя, чым будуць запоўнены перапынкі. Для гэтага добра падрыхтаваць некалькі варыянтаў баўлення вольнага часу. Гэта могуць быць гульні, тэсты, віктарыны, конкурсы, латэрэі, самадзейны экспромт-канцэрт. Свята атрымаецца цікавае і аб'яднае ўсіх гасцей, калі кожны зможа прыняць удзел у гульнях і атрымаць маленькі сувенір.

Паклапаціцеся і пра танцавальную (дыскатэчную) частку свята. Загадзя падбярыце касеты, дыскі з хуткай, дынамічнай і спакойнай музыкай, каб улічыць густы ўсіх гасцей.

Але вось свята скончылася. Ваш абавязак — праводзіць гасцей да дзвярэй, дапамагчы апрануцца, падзякаваць за прыемны вечар.

1. Як можна прадставіць гасцей адзін аднаму? 2. Што неабходна памятаць, прымаючы падарунак? 3. Што неабходна ўлічваць пры размяшчэнні гасцей за сталом? 4. Якую паслядоўнасць выконваюць пры падачы страў? 5. Што трэба ўлічваць у танцавальна-забаўляльнай частцы свята? 6. Якія правілы этыкету неабходна выконваць, праводзячы гасцей? 7*. Складзіце алгарытм правядзення свята.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

Раздзел 4

# АСНОВЫ ВЫРОШЧВАННЯ РАСЛІН



Кветкава-дэкаратыўныя расліны сталі неад'емнай часткай нашых гарадоў і сёлаў. Яны прыносяць людзям радасць і ў святы, і ў будні.

Разнастайныя біялагічныя асаблівасці кветкава-дэкаратыўных раслін патрабуюць і розных умоў вырошчвання. Таму, перш чым пачаць іх разводзіць, неабходна вывучыць правілы арганізацыі работы з кветкава-дэкаратыўнымі раслінамі.

Вы пачынаеце вывучаць раздзел «Асновы вырошчвання раслін». На кожных занятках вы будзеце карыстацца сельскагаспадарчым інвентаром.

Падчас навучання неабходна выконваць наступныя патрабаванні.

1. Выконваць практычныя работы на дзялянцы належыць у спецыяльным адзенні (халат ці фартух бавоўняны з нагруднікам, галаўны ўбор з баваўнянай тканіны, рукавіцы камбінаваныя).

2. Лапаты, граблі, матыкі належыць несці вертыкальна такім чынам, каб рабочая частка інвентара была накіравана ўніз.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

3. Праз кожныя 20—30 мінут (па ўказанні настаўніка) рабіць 10-мінутны перапынак.

4. Ужываць ежу пры выкананні практычных работ на дзялянцы забараняецца.

5. У выпадку траўмы ці пагаршэння самаадчування адразу ж перапыніць выкананне практычнай работы і паведаміць настаўніку пра здарэнне.

6. Па заканчэнні работы належыць ачысціць інвентар, зняць спецыяльнае адзенне і памыць рукі.

7. Па заканчэнні заняткаў інвентар, які выкарыстоўваўся, неабходна паставіць у спецыяльна адведзенае для гэтага месца і паведаміць настаўніку аб выкананні практычнай работы.

## § 38. Значэнне кветкава-дэкаратыўных раслін

Свет кветак навокал надзвычай разнастайны і дзівосны! Кветкі паўсюль — у лесе, у полі, на лугах, у парках і садах. Кветкі абуджаюць у людзях пачуццё прыгожага, любоў да прыроды.

Здаўна кветкі прыцягвалі ўвагу чалавека. Падчас падарожжаў і ваенных паходаў людзі не маглі прайсці абыякава міма дзівосных раслін і, вяртаючыся на радзіму, прывозілі насенне, цыбуліны і самі кветкавыя расліны. Так у Еўропу з Амерыкі трапілі вяргіні, флёксы; з Азіі — бэз; бягонія прывезена з берагоў Амазонкі; азаліі — з Кітая і Японіі.

На працягу многіх стагоддзяў людзі не толькі вырошчваюць кветкава-дэкаратыўныя расліны, ствараюць цудоўныя кветнікі, упрыгожваюць жыллё, але і выводзяць новыя гатункі культур. Дзякуючы руплівай працы селек-

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

цыянераў усяго свету атрымана больш за 40 тысяч гатункаў руж, 10 тысяч гатункаў цюльпанаў і іншых раслін.

Да групы кветкава-дэкаратыўных раслін адносяць драўнінныя, кустовыя і травяністыя расліны. Адны з іх вырошчваюць дзеля прыгожай кветкі, іншыя — дзеля духмянасці, трэція — дзеля арыгінальнай формы і афарбоўкі лісця.

Жывыя кветкі выкарыстоўваюцца на працягу ўсяго года. Яны неабходныя для афармлення месцаў азелянення, а таксама для атрымання зрэзанага матэрыялу, прымяняюцца для разнастайных аранжыровак (букетаў, карцін, кампазіцый і г. д.).

Зялёныя пасадкі — адзін з асноўных элементаў упарадкавання населеных пунктаў. Разам з эстэтычным яны маюць і велізарнае санітарнае значэнне, абараняючы гарады і пасёлкі ад дыму, выхлапных газаў і пылу. Лісце і кветкі многіх дэкаратыўных раслін выдзяляюць у паветра фітанцыды — асаблівыя лятучыя рэчывы, якія знішчаюць хваробатворныя бактэрыі.

Многія кветкавыя расліны выкарыстоўваюцца ў харчовай і лекавай прамысловасці.

Кветкаводства ў Беларусі — гэта цэлая прамысловая галіна. Вырошчваннем кветак займаюцца буйныя гаспадаркі і кветкава-дэкаратыўныя гадавальнікі. У рэспубліцы створаны навукова-даследчы інстытут, вопытныя станцыі, Батанічны сад, станцыі юннатаў.

Вялікае значэнне ў нашай рэспубліцы надаецца «зялёнаму будаўніцтву»: азеляненню вуліц, тэрыторый заводаў і фабрык, школ, жылых мікрараёнаў, стварэнню зон адпачынку: сквераў, паркаў (мал. 56). Сучаснае кветкаводства накіравана на тое, каб кветкава-дэкаратыўныя рас-

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования



*Мал. 56.* Прыклады азелянення

ліны былі размешчаны эфектыўна, рацыянальна і па-мастацку, спалучаліся паміж сабой.

1. Якія расліны адносяць да групы кветкава-дэкаратыўных? 2. Якое значэнне маюць кветкава-дэкаратыўныя расліны для чалавека? 3*. Што адбудзецца, калі з жыцця чалавека знікнуць кветкава-дэкаратыўныя расліны?

## § 39. Класіфікацыя кветкава-дэкаратыўных раслін

Свет кветкава-дэкаратыўных раслін надзвычай разнастайны, таму ў аснову іх класіфікацыі могуць быць пакладзены розныя прыкметы.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования


Петунія


Лілея


Віёла (браткі)

*а*


Архідэя


Папараць

*б*

*Мал. 57.* Групы раслін з рознымі ўмовамі вырошчвання: *а* — адкрытага грунту; *б* — аранжарэйныя

Паводле **ўмоў вырошчвання** вызначаюць расліны адкрытага грунту і аранжарэйныя (мал. 57).

Паводле **працягласці жыцця** — на аднагадовыя, двухгадовыя і шматгадовыя (мал. 58).

*Аднагадовыя* кветкавыя расліны (летнікі) заканчваюць цыкл развіцця на працягу аднаго года.

*Двухгадовыя* — цвітуць і адміраюць на другім годзе жыцця.

*Шматгадовыя* кветкавыя расліны маюць травяністыя парасткі, якія пасля заканчэння вегетацыі штогод адмі-

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования



Аксаміткі



Званочак



Флёксы



Касмея



Маргарытка



Півоня

*а* *б* *в*

*Мал. 58.* Групы раслін з рознай працягласцю жыцця: *а* — аднагадовыя; *б* — двухгадовыя; *в* — шматгадовыя

раюць, і шматгадовыя падземныя органы — караняклубні, карэнішчы, клубнецыбуліны.

Паводле **спосабу выкарыстання** кветкавыя культуры можна падзяліць на дывановыя, бардзюрныя, павойныя, ампельныя, масіўна-дэкаратыўныя (мал. 59).

*Дывановыя расліны* — шматкветкавыя нізкарослыя расліны з дробным лісцем, моцным кустом.

*Бардзюрныя* — нізкарослыя, якія абрамляюць клумбы.

*Павойныя* і *ампельныя* характарызуюцца тым, што іх парасткі растуць не вертыкальна, а звісаюць, сцелюцца або чапляюцца.

*Масіўна-дэкаратыўныя* — высокія расліны з дэкаратыўным лісцем, якія выкарыстоўваюцца для адзіночнай або групавой пасадкі.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальн



Алісіум

*а*



Агератум

*б*



Клемаціс

*в*



Бягонія

*г*



Кана

*д*

*Мал. 59.* Групы раслін паводле спосабу выкарыстання: *а* — дывановыя; *б* — бардзюрныя; *в* — павойныя; *г* — ампельныя; *д* — масіўна-дэкаратыўныя

Паводле **дэкаратыўнай прыкметы** кветкава-дэкаратыўныя расліны падзяляюць на прыгожаквітнеючыя, лістава-дэкаратыўныя, расліны з дэкаратыўнымі пладамі (мал. 60).

Дадзеную класіфікацыю прымяняюць у залежнасці ад мэты ствараемага кветніка.

1. Назавіце расліны адкрытага грунту. 2. Якія віды класіфікацыі кветкава-дэкаратыўных раслін вы ведаеце? 3*. Дайце характарыстыку сваёй любімай кветцы ў адпаведнасці з усімі групамі класіфікацыі.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования



Ружа | Хоста | Фізаліс

Петунія | Бягонія | Лунарыя

*а* | *б* | *в*

*Мал. 60.* Групы раслін паводле дэкаратыўнай прыкметы: *а* — прыгожаквітнеючыя; *б* — ліства-дэкаратыўныя; *в* — з дэкаратыўнымі пладамі

## § 40. Умовы вырошчвання кветкава-дэкаратыўных раслін

Асноўнае значэнне пры вырошчванні кветкава-дэкаратыўных раслін мае глеба. Яна з'яўляецца асяроддзем, якое забяспечвае расліны ўсімі неабходнымі элементамі харчавання.

Паводле **механічнага складу** глебы бываюць: суглінкавыя, гліністыя, пясчаныя, супясчаныя, тарфяныя. Лепшымі лічацца суглінкавыя і супясчаныя глебы. Яны ма-

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

юць дастатковы запас пажыўных рэчываў, добра ўтрымліваюць ваду і паветра.

Для паляпшэння ўрадлівасці глебы ў яе дадаюць пясок, торф, кампост, перагной, гліну. У некаторых раёнах Беларусі глебы маюць павышаную кіслотнасць. Паказчыкам кіслых глеб з'яўляецца вырастанне на іх шчаўя, хвашчоў, моху. Для зніжэння кіслотнасці ў глебу ўносяць вапну. Для нармальнага развіцця кветкава-дэкаратыўных раслін звычайна патрабуецца нейтральная або слабакіслая глеба.

Для вырошчвання расады кветкава-дэкаратыўных раслін загадзя назапашваюць садовыя землі, якія бываюць розных відаў: дзярновая, перагнойная, ліставая, тарфяная, кампостная. У іх розныя ўласцівасці. *Дзярновая зямля* самая цяжкая, порыстая; *перагнойная* — лёгкая, рыхлая, найбольш багатая на пажыўныя рэчывы; *ліставая* і *тарфяная землі* таксама лёгкія і рыхлыя, але ўтрымліваюць мала пажыўных рэчываў. Якасць і фізічныя ўласцівасці зямлі залежаць ад матэрыялаў, з якіх яна прыгатавана. Часцей за ўсё садовыя землі выкарыстоўваюць у сумесі.

### Удабрэнні

Расліны паглынаюць з глебы вялікую колькасць пажыўных рэчываў, таму неабходна сістэматычна ўносіць у глебу ўдабрэнні. Вы ўжо ведаеце, што ўдабрэнні бываюць мінеральныя і арганічныя. У глебу іх уносяць у сухім і вадкім выглядзе.

***Мінеральныя ўдабрэнні.***

*Азотныя ўдабрэнні* ўносяць для ўзмацнення росту і развіцця раслін. Пры недахопе азоту раслінам уласцівыя слабая кусцістасць, тонкія парасткі, дробнае лісце жаўта-

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

вата-зялёнага колеру, дачасны лістапад. Азотныя ўдабрэнні звычайна ўносяць вясной.

*Фосфарныя ўдабрэнні* ўзмацняюць цвіценне і ўтварэнне пладоў. Пры недахопе фосфару прыпыняецца рост раслін, на лісці з'яўляюцца чырвоныя і фіялетавыя плямы, лісце паступова ападае.

*Калійныя ўдабрэнні* садзейнічаюць росту раслін і іх большай холадастойкасці. Пры недахопе калію рост раслін замаруджваецца, лісце набывае сінявата-зялёную афарбоўку, скручваецца і засыхае.

Акрамя простых мінеральных удабрэнняў выпрабляюцца *складаныя* і *змешаныя*, у састаў якіх уваходзіць некалькі неабходных для сілкавання раслін элементаў.

*Мікраўдабрэнні*. Для росту і развіцця раслін некаторыя *мікраэлементы* неабходныя ў нязначнай колькасці. Гэта медзь, сера, магній, бор і інш. Прамысловасць выпрабляе стандартны набор мікраўдабрэнняў, які цалкам забяспечвае расліны мікраэлементамі.

***Арганічныя ўдабрэнні.*** Лепшым з іх лічыцца гной, які ўтрымлівае ўсе неабходныя раслінам пажыўныя рэчывы. Лепшы час для ўгнаення — перад асенняй глыбокай перакопкай.

У кветкаводстве прымяняюцца і *кампосты* — удабрэнні, прыгатаваныя з гною, торфу, арганічных рэшткаў.

### Інвентар і абсталяванне

Абавязковай умовай выканання любых работ з кветкава-дэкаратыўнымі раслінамі з'яўляецца зручны інвентар (мал. 61). Для падрыхтоўкі глебы выкарыстоўваюцца лапаты, вілы, граблі. Для пасадкі і выкопвання раслін — лапаты з выгнутымі ручкамі, пікіровачныя калочкі, шуф-

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования




*Мал. 61.* Інвентар для догляду і апрацоўкі глебы: *1* — лапата садовая; *2* — лапата універсальная; *3* — вілы садовыя; *4* —граблі; *5* — пласкарэз Фокіна; *6, 7, 8* — рыхліцелі; *9* — шуфлік; *10* — секатар садовы; *11* — матыка; *12* — лейка

лік, выкарыстоўваюцца таксама рулеткі, шнуры. Для догляду раслін прымяняюць матыкі, лейкі.

1. Якія віды глеб вы ведаеце? 2. Што адбываецца з раслінамі пры недахопе пажыўных рэчываў? 3. Які інвентар і калі выкарыстоўваюць для работ з кветкава-дэкаратыўнымі раслінамі?

## § 41. Асаблівасці размнажэння кветкава-дэкаратыўных раслін

Кветкава-дэкаратыўныя расліны размнажаюцца насенным і вегетатыўным спосабамі.

### Насеннае размнажэнне

Пры насенным спосабе размнажэння карыстаюцца насеннем. Гэтым спосабам часцей за ўсё размнажаюць аднагадовыя і двухгадовыя кветкавыя расліны.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

Насеннае размнажэнне кветкава-дэкаратыўных раслін мае шэраг асаблівасцей. Насенне, прызначанае для пасеву, павінна быць паўнацэннае, мець высокія пасяўныя і гатункавыя якасці. Для атрымання больш дружных усходаў і здаровых раслін насенне спецыяльна апрацоўваюць (пратраўліваюць, намочваюць у пажыўных сумесях, прамарожваюць і інш.) у залежнасці ад віду раслін. Пасля гэтага насенне высяваюць.

***Пасеў насення.*** Існуе два спосабы вырошчвання раслін, якія размнажаюцца насеннем: безрасадны і расадны.

Пры *безрасадным спосабе* пасеў выконваюць адразу на пастаяннае месца без перасадкі: радамі (у праведзеныя баразёнкі), гнездавым спосабам (у лункі па некалькі штук) або раскідваннем насення.

*Расадны спосаб.* Некаторыя кветкава-дэкаратыўныя расліны пры пасеве ў адкрыты грунт не паспяваюць зацвісці або зацвітаюць занадта позна. Пры вырошчванні такіх раслін патрабуецца падрыхтоўка кветкавай расады. Існуе два спосабы вырошчвання расады: пакаёвы і грунтавы.

***Вырошчванне пакаёвай расады.*** Пасеў насення выконваюць ранняй вясной у напоўненыя садовай зямлёй скрыні (мал. 62). Пасля пасеву скрыні трымаюць у цёплым памяшканні (15—25 °C), рэгулярна выконваючы паліў цёплай вадой (20—25 °C).

Калі на расадзе разаўюцца 1—2 сапраўдныя лісточкі, яе пікіруюць у скрыні, грунт парніка або на грады (мал. 63).

***Вырошчванне грунтавой расады*** — адзін з самых даступных спосабаў. Пры такім спосабе вырошчвання расліны пышна і працягла цвітуць. Падрыхтаванае насенне высяваюць на градку, якая асвятляецца сонцам і абаронена ад ветру.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования




*Мал. 62.* Паслядоўнасць падрыхтоўкі глебы да пасеву і пасеў насення:
*а* — ушчыльненне глебы; *б* — разраўноўванне; *в* — пасеў; *г* — мульчыраванне; *д* — паліў

Догляд расады зводзіцца да паліву, рыхлення глебы, выдалення пустазелля. Перасадку грунтавой расады выконваюць тады, калі ў яе з'явіцца трэці-чацвёрты лісток. Для таго каб яна хутчэй прыжылася, неабходна за гадзіну да пасадкі шчодра яе паліць. Перасаджваць расаду на-




*Мал. 63.* Пікіраванне расады пад калочак:
*а* — правільнае становішча калочка; *б* — падвернуты корань; *в* — сеянец высока падняты; *г* — сеянец нізка апушчаны; *д* — сеянец пасаджаны правільна

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный инстит

лежыць з комам зямлі. Робяць гэта раніцай, увечары або ў пахмурны дзень. Пасля высадкі ўсёй расады клумбу шчодра паліваюць з лейкі з сітцам.

### Вегетатыўнае размнажэнне

Для вегетатыўнага размнажэння выкарыстоўваюць сцябло, лісце, корань раслін. Спосабаў вегетатыўнага размнажэння некалькі.

***Размнажэнне дзяленнем*** — самы просты і распаўсюджаны спосаб.

*Дзяленне кустоў.* Мнагалетнікі, якія цвітуць вясной, перасаджваюць і дзеляць на пачатку восені (півоні, прымулы). У кожнай раздзеленай частцы павінны быць парасткі з пупышкамі і дастатковая колькасць каранёў. Расліны, якія цвітуць восенню (астры, флёксы), перасаджваюць і дзеляць позняй вясной (мал. 64).

Пры *дзяленні карэнішчаў* (каны, касачы) неабходна, каб кожная частка мела 1—2 пупышкі. Таму іх папярэдне прарошчваюць, а потым разразаюць (мал. 65).



*Мал. 64.* Дзяленне куста флёксаў



*Мал. 65.* Дзяленне карэнішча кан



*Мал. 66.* Дзяленне караняклубняў вяргінь

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования



*Мал. 67.* Размнажэнне флёкса сцёблавымі чаранкамі



*Мал. 68.* Лілея з дзеткамі

Пры *дзяленні кораняклубняў* (вяргіня) сцёблы ў іх абразаюць на адлегласці 10—15 см ад кораняклубня (мал. 66).

***Чаранкаванне.*** Размнажэнне *сцёблавымі чаранкамі* (зялёнымі, летнімі) праводзяць вясной і на пачатку лета (шматгадовыя флёксы, астры, махровыя петуніі). Для чаранкавання абразаюць парасткі з дзвюма-трыма вузламі без кветак і бутонаў (мал. 67).

***Размнажэнне цыбулінамі.*** Цыбульныя расліны (цюльпаны, нарцысы, лілеі) размнажаюцца *дзеткамі* — маленькімі цыбулінкамі (мал. 68). Пасля таго як расліны адцвітуць, цыбуліны выкопваюць, аддзяляюць дзеткі і захоўваюць пры пэўных умовах. Восенню, да наступлення маразоў, іх высаджваюць у грунт, на зіму — укрываюць.



*Мал. 69.* Клубнецыбуліна гладыёлуса

***Размнажэнне клубнецыбулінамі.*** Да восені ў мацярынскай клубнецыбуліны гладыёлуса, поз-

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

нацвета, крокуса ўтвараюцца дзеткі (ад 1 да 6) (мал. 69). Іх выкопваюць, захоўваюць, а вясной высаджваюць у грунт.

1. Якія асаблівасці насеннага размнажэння кветкава-дэкаратыўных раслін? 2. Якія спосабы вегетатыўнага размнажэння вы ведаеце? 3. Як высяваюць насенне безрасадным спосабам? 4. Чым адрозніваецца вырошчванне пакаёвай расады ад грунтавой?

## § 42. Вырошчванне насеннікаў. Збор і захоўванне насення

Вялікая колькасць кветкава-дэкаратыўных культур дазваляе атрымаць разнастайны насенны матэрыял. Пры вырошчванні насеннікаў неабходна ствараць пэўныя ўмовы:

- для захавання чысціні гатунку належыць саджаць насеннікі на вялікай адлегласці адзін ад аднаго (напрыклад, гваздзік — на адлегласці 5—10 м);
- гатункі раслін, насенне якіх на працягу некалькіх гадоў не страчвае ўсходжасці, высяваюць не ў адзін год, а па чарзе.

Догляд насенных раслін уключае своечасовую прапалку пустазелля, рыхленне глебы, паліў, падкормку ўдабрэннямі, барацьбу з хваробамі і шкоднікамі. Для атрымання насення больш высокай якасці ў раслін выкарыстоўваецца абрэзка бакавых парасткаў цвіцення і плоданашэння.

Насенне збіраюць з лепшых раслін дадзенага гатунку. Збор выконваецца выбарачна, па меры яго выспявання, калі насенне набыло пэўную афарбоўку, а сцёблы і пялёсткі насення засохлі. Насенне, якое выспела на самой расліне, добра захоўваецца і не страчвае ўсходжасці. Насенне раслін, плады якіх лёгка растрэскваюцца (флёкс, віёла, рэ-

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

зеда), збіраюць у перыяд пабялення пладоў, не чакаючы пажаўцення.

Збор насення выконваюць уручную, зрываючы яго рукамі (наготкі, настурка) або зразаючы нажніцамі ў сухое надвор'е (астры, аксаміткі), не дапускаючы іх асыпання. Сабранае насенне прасушваюць, потым ачышчаюць ад прымесей і прасейваюць праз сіта. Буйное насенне (бабы турэцкія, гарошак духмяны) аддзяляюцца ад смецця простай пераборкай.

Ачышчанае насенне складваюць у папяровыя пакеты або палатняныя мяшэчкі і захоўваюць у сухім халаднаватым памяшканні пры тэмпературы 5—12 °С. Усходжасць насення пры правільным захоўванні — 3—4 гады.

1. Якія ўмовы неабходныя для вырошчвання насеннікаў? 2. Што неабходна зрабіць, каб атрымаць насенне больш высокага гатунку? 3. Як збіраюць насенне кветкава-дэкаратыўных раслін? 4. Як падрыхтаваць насенне для захоўвання?

## § 43. Догляд кветкава-дэкаратыўных раслін

Высаджаныя ў грунт кветкавыя расліны патрабуюць сістэматычнага і руплівага догляду.

Неабходнымі работамі па доглядзе з'яўляюцца паліў, мульчыраванне, рыхленне глебы, праполка, падкормка.

*Паліваюць расліну* як пасля пасадкі, так і на працягу вегетатыўнага перыяду, калі дажджоў выпадае мала. Паліваць расліны неабходна раніцай або вечарам, пасля заходу сонца. Вільгаць пры дзённым паліве хутка выпараецца, магчымыя апёкі раслін.

Перасушка глебы, як і празмерны паліў, шкодная. Расліны належыць паліваць шчодра, але ў 2—3 прыёмы, каб вада добра прамачыла глебу. Пры шчодрым паліве ў

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

адзін прыём утвараюцца патокі, якія ўвільгатняюць глебу паверхнева і агаляюць карані.

Толькі што пасаджаныя расліны паліваюць з лейкі з сітцам, больш буйныя і дужыя — з лейкі або шланга з распыляльнікам.

Пасля паліву глебу *рыхляць*. Рыхленне засцерагае глебу ад залішняга выпарэння вільгаці, забяспечвае лепшы доступ паветра да раслін, перашкаджае развіццю пустазелля. Рыхляць глебу звычайна пасля дажджу, калі яна становіцца шчыльная. Рыхленне выконваюць матыкай (на глыбіню 5—8 см) такім чынам, каб не пашкодзіць карані раслін. Звычайна рыхленне спалучаюць з праполкай (пласкарэз Фокіна).

*Праполка*. Пустазелле заглушае кветкавыя расліны, адбірае пажыўныя рэчывы і вільгаць, з’яўляецца асяродкам для развіцця хвароб і шкоднікаў, псуе дэкаратыўны выгляд кветніка.

Праполку неабходна выконваць як мага раней — са з’яўленнем усходаў пустазелля. На працягу лета кветнікі прапольваюць не менш як 3—4 разы. Выпалваць пустазелле трэба з каранямі або падразаць глыбей, таму лепш праводзіць праполку пасля дажджу або шчодрага паліву. Асабліва старанна належыць знішчаць пырнік, асот, дзьмухавец. Для знішчэння пустазелля ў сельскай гаспадарцы выкарыстоўваюць хімічныя рэчывы.

Для догляду раслін прымяняюць *мульчыраванне* — пакрыццё глебы вакол раслін торфам, пяском, перагноем і інш. Гэта садзейнічае больш інтэнсіўнаму паглынанню сонечных промняў, захаванню вільгаці, рыхласці глебы, стрымлівае рост пустазелля.

Для лепшага развіцця і пышнага цвіцення расліны падкормліваюць удабрэннямі.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

*Падкормліваць* расліны належыць у пахмурнае надвор’е або ўвечары, пасля дажджу або паліву. Для гэтага выкарыстоўваюць мінеральныя або арганічныя ўдабрэнні.

Падкормліваць расліны пачынаюць толькі пасля ўкаранення. На першых стадыях росту неабходныя азотныя падкормкі. Перад пачаткам цвіцення неабходныя фосфарна-калійныя падкормкі. Аднак найбольш эфектыўныя сумесі мінеральных удабрэнняў.

Усе кветкава-дэкаратыўныя расліны можна падкормліваць мінеральнымі ўдабрэннямі ў *сухім* выглядзе. З гэтай мэтай прымяняюць гранулiраваныя ўдабрэнні або арганамінеральныя сумесі. Імі пасыпаюць глебу вакол раслін, не дапускаючы, каб яны трапілі на расліны, для таго каб пазбегнуць іх апёкаў.

Пры выкарыстанні *вадкіх* арганічных удабрэнняў у раствор дабаўляюць жалезны купарос (0,2 г на 10 л вады). Гэта памяншае пах і скарачае страты азоту.

1. Якія віды работ па доглядзе раслін з’яўляюцца неабходнымі? 2. Як правільна выконваецца паліў? 3. Для чаго выконваюць рыхленне глебы? 4. Чаму праполка з’яўляецца адным з неабходных прыёмаў догляду? 5. Калі лепш праводзіць падкормку кветкава-дэкаратыўных раслін?

## § 44. Шкоднікі і хваробы кветкава-дэкаратыўных раслін і спосабы барацьбы з імі

Амаль усе кветкава-дэкаратыўныя расліны пашкоджваюцца рознымі хваробамі і шкоднікамі. Несвоечасовае прыняцце мер прыводзіць не толькі да зніжэння дэкаратыўнай каштоўнасці раслін, але часта і да іх гібелі.

Сістэма аховы раслін ад шкоднікаў і хвароб змяшчае прафілактычныя і знішчальныя меры.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

Да **прафілактычных** мер адносяцца:

- *агратэхнічныя:* штогадовая глыбокая асенняя перакопка глебы; чаргаванне пасеву кветкавых культур на дзялянцы; выкарыстанне здаровага пасяўнога матэрыялу; высадка гатункаў, устойлівых да хвароб;
- *механічныя:* сістэматычнае знішчэнне пустазелля, тэрмічная апрацоўка цыбулін кветкавых раслін; асенняя ўборка ўсіх раслінных рэшткаў з дзялянкі;
- *біялагічныя:* прывабліванне падкормліваннем насякомаедных птушак, развешванне шпакоўняў;
- *хімічныя:* правільнае прымяненне ўдабрэнняў; дэзінфекцыя глебы.

У якасці **знішчальных** мер прымяняюцца хімічныя прэпараты і раслінныя настоі, якія знішчаюць шкоднікаў і ўзбуджальнікаў хвароб, але не наносяць шкоды раслінам.

Часцей за ўсё сустракаюцца наступныя **шкоднікі.**

***Цыбульны каранёвы клешч.*** *Прыкметы пашкоджання:* цыбульныя расліны не цвітуць, лісце жоўтае і завялае (мал. 70, *а*).

*Меры барацьбы:*

- пры ўкладцы на захоўванне абпудрыць мелам або молатай серай;
- праграванне цыбулін расліны пры 35—40 °С на працягу 7—10 дзён.

***Павуцінны клешч.*** *Прыкметы пашкоджання:* на ніжнім баку ліста павуціна і светлыя плямкі (мал. 70, *б*).

*Меры барацьбы:*

- апырскванне настоем часнаку, цыбулі (200 г на 10 л вады), цыбульнага шалупіння (500 г на 10 л гарачай вады);
- апыленне молатай серай, апырскванне пірэтрумам.

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования



*а* *б* *в*

*Мал. 70.* Шкоднікі кветкавых раслін:
*а* — цыбульны каранёвы клешч; *б* — павуцінны клешч;
*в* — тля ліставая

***Тля ліставая.*** *Прыкметы пашкоджання:* скрыўленыя парасткі са скручанымі, пазбаўленымі колеру лістамі, неразвітыя бутоны (мал. 70, *в*).

*Меры барацьбы:*

- апырскванне настоем часнаку, цыбулі, цыбульнага шалупіння;
- апырскванне пірэтрумам.

Узбуджальнікамі **хвароб** з'яўляюцца грыбы, бактэрыі і вірусы. Асабліва моцна пашкоджваюцца слабыя расліны, таму важна ў перыяд захоўвання своечасова выдаляць хворыя клубні, цыбуліны.

Сярод захворванняў кветкава-дэкаратыўных раслін часцей за ўсё сустракаюцца наступныя.

***Мучністая раса.*** *Прыкметы захворвання:* з'яўленне на лісці, а потым на бутонах і парастках белаватага і бураватага мучністага налёту. Пашкоджанае лісце скручваецца і адмірае (мал. 71, *а*).

*Меры барацьбы:* апырскванне кальцыніраванай содай, бардоскай вадкасцю, растворам пральнага парашку (10 ст. л. на 10 л вады), апыленне молатай серай.

***Іржа.*** *Прыкметы захворвання:* на лісці, сцёблах і бутонах з'яўляюцца цёмна-карычневыя плямы (восенню —

Образовательный портал www.adu.by/ Национальь







*Мал. 71.* Хваробы кветкавых раслін:
*а* — мучністая раса;
*б* — іржа

падушачкі), лісце жаўцее, высыхае. Пры моцным заражэнні ўсё лісце пакрываецца ржой (мал. 71, *б*).

*Меры барацьбы:* уборка і спальванне пашкоджаных частак і лісця на працягу ўсяго вегетатыўнага перыяду, апырскванне тымі ж прэпаратамі, што і супраць мучністай расы.



1. Што змяшчае сістэма аховы раслін ад шкоднікаў і хвароб? 2. Якія меры барацьбы адносяцца да прафілактычных? 3. Што прымяняецца ў якасці знішчальных мер? 4. Якіх шкоднікаў кветкава-дэкаратыўных раслін вы ведаеце?

## § 45. Выкарыстанне кветкава-дэкаратыўных раслін у ландшафтных кампазіцыях

Ландшафтныя кампазіцыі ўяўляюць сабой свабоднае спалучэнне розных кветкава-дэкаратыўных раслін, а таксама камянёў, пліт, іншых дэкаратыўных элементаў (мал. 72).

Кампазіцыі прышкольнай, дачнай дзялянак маюць самастойнае значэнне і павінны арганічна ўпісвацца ў навакольны ландшафт, адрозніваецца навізной, дэкаратыўнасцю. Любая дзялянка патрабуе прадуманай арганізацыі тэрыторыі, якая пачынаецца з яе праектавання. Пры праектаванні належыць улічваць, што ландшафтныя кампазіцыі складаюцца на 60 % з газонаў, на 25—30 % —

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования



*Мал. 72.* Ландшафтная кампазіцыя

з дрэў, кустоў, на 10—15 % — з кветнікаў. Кветнікі ствараюць у людзей добры настрой дзякуючы прыгажосці кветак, іх водару, свежасці і непаўторнасці.

Кветнікі маюць пэўныя састаўныя часткі: кветкавыя насаджэнні рознай формы, дарожкі, газон.

Для лепшага выяўлення якасцей кветкава-дэкаратыўных раслін пры праектаванні размяшчэння кветнікаў можна кіравацца класічнымі стылямі: *рэгулярным* (геаметрычным, французскім), пры якім элементы кветнікаў размяшчаюцца сіметрычна, паўтараючы асобныя геаметрычныя фігуры: квадрат, прамавугольнік, круг, і *ландшафтным* (пейзажным, англійскім), пры якім размяшчэнне пасадак набліжаецца да натуральнага (мал. 73). Магчымае і камбінаванае прымяненне, калі спалучаюцца два стылі.



*а*



*б*

*Мал. 73.* Класічныя стылі планіроўкі: *а* — рэгулярны; *б* — ландшафтны

Образовательный портал www.adu.by/ Нац





*а* *б* *в*

*Мал. 74.* Кветнікі рознай формы:
*а* — клумба; *б* — рабатка; *в* — бардзюр

Пры праектаванні кветнікаў належыць улічваць характар азелянення (формы кветкавых насаджэнняў, іх месцазнаходжанне, размяшчэнне на дзялянцы). Выкарыстоўваюць разнастайныя формы кветкавых насаджэнняў: клумбы, рабаткі, бардзюры, альпінарыі, міксбордзеры, адзіночныя пасадкі і інш.

**Клумбы** — частка кветніка, кветкавыя градкі розных памераў і форм, якія робяць на фоне газона (або на адкрытых пляцоўках) (мал. 74, *а*).

**Рабаткі** — вузкія і доўгія палосы ў выглядзе град шырынёй 0,5—2,5 м уздоўж дарожак, алей, будынкаў (мал. 74, *б*). Расліны аднаго або розных відаў высаджваюцца радамі або з выкананнем пэўнага малюнка. Рабаткі з раслін аднаго колеру выглядаюць больш прывабна.

**Бардзюры** — вузкія палосы, якія акаймляюць пасадкі клумб, рабатак шырынёй 10—30 см, засаджаныя бардзюрнымі раслінамі. Яны надаюць закончанасць афармленню (мал. 74, *в*).

Стварыўшы агульны праект азелянення дзялянкі, выконваюць рабочыя праекты на ўсе формы праектуемых

Образовательный портал www.adu.by/ Националы

кветнікаў (клумбы, рабаткі, бардзюры), якія потым пераносяць на глебу.

Перад нанясеннем ліній малюнка зямлю перакопваюць і старанна разраўноўваюць граблямі. Абазначаныя лініі пасыпаюць белым пяском, мелам. Для складаных дэталей, якія паўтараюцца ў малюнку, вырабляюць шаблоны, якія затым накладваюць у патрэбных месцах і вычэрчваюць, што палягчае разбіўку клумб.




*Мал. 75.* Расліны розных тэрмінаў цвіцення: *а* — вясеннія; *б* — летнія; *в* — асеннія

Образовательный портал www.adu.by/ Национальный институт образования

